# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 28 15 ліпеня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

(2326)




# ПЕРШЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

**8–10 ліпеня 1993 г., Мінск.**








З 8 па 10 ліпеня ў Мінску адбылася надзвычайная падзея — Першы з'езд беларусаў свету. Ён адкрыўся ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь пад гукі ўрачыстай і ўзнёслай багдановічавай "Пагоні", і адпаведны настрой запанаваў у зале.

У прывітальным слове да з'езда Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў ШУШКЕВІЧ назваў яго гістарычным, бо ўпершыню за многія дзесяцігоддзі беларусы, раскіданыя па ўсім свеце, без прынукі і забароны сабраліся разам, каб сумеснымі намаганнямі, аб'яднаным розумам абмеркаваць нялёгкае становішча, у якім апынулася Беларусь, і вызначыць яе далейшы шлях, дапамагчы ёй выстаяць і набыць сапраўдны, а не ўяўны суверэнітэт і незалежнасць.

Гэта па-чалавечаму проста і мудра: сабрацца разам усім блізкім людзям, калі ў небяспецы твая маці або бацька, твая зямля, твая краіна. Менавіта такая часіна надышла і для беларусаў, і варта сёння забыць старыя крыўды і правіны, стаць вышэй іх дзеля агульнай справы і высакароднай мэты аб'яднання, бо галоўная ідэя з'езда — аб'ядноўчая.

На з'езд сабралася 1 200 дэлегатаў з далёкага і блізкага замежжа, і лічба гэтая сведчыць пра глыбокую зацікаўленасць сыноў і дачок Беларусі яе лёсам, яе сённяшнім складаным становішчам. Землякі з Канады і Злучаных Штатаў, краін Еўропы, Лацінскай Амерыкі, з былых рэспублік Сярэдняй Азіі і далёкай Поўначы былога Саюза, з краін Балтыі, Украіны і Малдовы праслухалі даклады аб стане спраў на Беларусі, выступалі з прапановамі, імкнучыся аказаць дапамогу парадамі і матэрыяльна. Увесь першы дзень ішоў абмен думкамі паміж гаспадарамі і гасцямі. На наступны дзень адбыліся "круглыя сталы" і сустрэчы па інтарэсах, у апошні дзень былі прыняты выніковыя дакументы з'езда. Але пра ўсё гэта — справаздача ў наступным нумары.

НА ЗДЫМКАХ: у прэзідыуме Першага з'езда беларусаў свету; выступае Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ; на трыбуне зямляк з ЗША Р. ЗАВІСТОВІЧ; здымак на памяць ля ўваходу ў оперны тэатр.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*VOCS POPULI*

### У ПАДТРЫМКУ С.ШУШКЕВІЧА

**Пасля няўдалага "парламенцкага путчу" газеты застракацелі тэлеграмамі, у якіх выказваецца рашучая падтрымка С.Шушкевічу.**

**Нагадаем: пракамуністычная большасць у беларускім парламенце паставіла пытанне аб даверы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславу Шушкевічу. Але вынікі галасавання былі на карысць Шушкевіча: толькі 166 дэпутатаў выказаліся за недавер свайму спікеру, а патрэбна было набраць не менш 174 галасоў. С.Шушкевіча падтрымала парламенцкая апазіцыя, якая адмовілася прымаць удзел у галасаванні.**

**"У цяжкі час выказваем поўны давер і падтрымку", "не паддавайцеся на правакацыі", "рашуча пратэстуем супраць спроб пракамуністычнай большасці расправіцца з С.Шушкевічам", — вось асноўныя думкі і пачуцці, якія выказваюць розныя людзі ў сваіх тэлеграмах, пісьмах, тэлефонных размовах у рэдакцыі газет, урадавыя ўстановы.**

**Ні адна руская газета такіх радкоў не надрукавала.**

*ПАСЛАННЕ МІТРАПАЛІТА*

### У АДЗІНСТВЕ І ЛЮБОВІ ХРЫСТОВАЙ НАША ВЫРАТАВАННЕ

**Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі ФІЛАРЭТ, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, член Свяшчэннага Сінода звярнуўся з пасланнем да ўдзельнікаў Першага з'езда беларусаў свету.**

**Вітаючы іх на роднай зямлі ад імя Праваслаўнай царквы Беларусі, Філарэт жадае плённай працы на карысць духоўнага і культурнага адраджэння беларускага народа, на карысць міру і згоды паміж людзьмі.**

**"Гісторыя раскідала беларусаў па свеце, падзяліла дзяржаўнымі і канфесійнымі межамі, але жыве асноўнае, што яднае ўсіх, — беларушчына, родная зямля, народ, мова, культура, агульныя хрысціянскія прынцыпы маралі, узгадаваны Царквою беларускі менталітэт, дарагія ўсім народныя традыцыі — усё тое, што мы завём душой народа", — адзначаецца ў пасланні.**

**"Калі мы будзем лепш ведаць адзін аднаго, ведаць жыццё нашых Цэркваў, — звяртаецца Філарэт да беларусаў свету, — будзе ўсталёўвацца мір і згода, будзе будавацца наш агульны дом — Беларусь. Пошук ворагаў, гістарычных правінаў — не хрысціянскі, заганны шлях. Зараз, у цяжкія для Беларусі чарнобыльскія часы, больш за ўсё патрэбна адзінства народа, усіх беларусаў — на радзіме і ў дыяспары. І ўсе мы павінны не забывацца аб хрысціянскім аптымізме, аб словах, што сказаў пасля Уваскрасення Гасподзь наш Ісус Хрыстос: "Радуйцеся!", — бо перамог смерць, уладу граху і д'ябла.**

*ДЭМПІНГАВАЯ ПАЛІТЫКА*

### СКАНДАЛ НА ЗАХОДНІМ РЫНКУ

**Камісія Еўрапейскага эканамічнага супольніцтва (ЕЭС) афіцыйна прызнала, што Беларусь і Расія вядуць дэмпінгавую палітыку ў адносінах да заходнееўрапейскіх хімічных канцэрнаў, прадаючы па нізкіх цэнах калійную соль на заходнім рынку. Як паведамляе французская газета "Фігаро", ЕЭС проста не можа процістаяць некантралюемаму экспарту гэтага тавару з Усходняй Еўропы. Прыводзіцца прыклад Французскага нацыянальнага хімічнага канцэрна (ЕМС), які ў выніку "ўсходняга" дэмпінга панёс у гэтым годзе страту ў памеры 438 мільёнаў франкаў.**

*З БЛАГАСЛАВЕННЕМ ЦАРКВЫ*

**Адправіліся на лячэнне і адпачынак у Балгарыю 24 хлопчыкі і дзяўчынкі з пацярпеўшага ад чарнобыльскай катастрофы Гомеля. Яны прыбылі ў беларускую сталіцу на сваім аўтобусе. І тут усю групу, што перасела ў больш камфартабельны транспарт, каля будынка Мінскага епархіяльнага ўпраўлення благаславіў у няблізкі шлях сакратар Уладыкі Філарэта айцец Іаан.**

**Чарговую групу дзяцей з забруджанага радыенуклідамі раёна накіраваў у сонечную Балгарыю Фонд міжнароднага супрацоўніцтва па сацыяльнай абароне "Беларусь". Яны зменяць дзяцей, якія ўжо адпачылі, набраліся сіл і ўражанняў.**



**НА ЗДЫМКУ: айцец Іаан благаслаўляе дзяцей з Гомеля.**

*ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ*



**3 ліпеня ў нашым календары і ў нашай памяці — Дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх акупантаў, першы дзень волі пасля доўгай і пакутлівай вайны. Раней яго адзначалі празмерна афіцыйна і ўрачыста. З прыходам гарбачоўскай "эпохі" такія даты, як 9 мая і 3 ліпеня некаторыя "перабудоўшчыкі" наогул хацелі спешна адмяніць і забыць. Сёлета дзяржава зрабіла ўсё, каб прыўзняць прэстыж свята вызвалення. Але, бадай, больш гучным яно атрымалася на старонках прэсы, чым на гарадскіх вуліцах. У сталіцы было немнагалюдна, хаця ветэранаў сустракалі шчыра і сардэчна.**

**НА ЗДЫМКУ: Мінск, 3 ліпеня 1993 года. Плошча Перамогі.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ДЭПУТАЦКАЕ аб'яднанне "Беларусь" Вярхоўнага Савета рэспублікі асудзіла ракетны ўдар, нанесены па Багдаду Злучанымі Штатамі Амерыкі. Пад Заявай паставілі подпісы больш 100 дэпутатаў.

КАЛЯ 2,6 мільёна гектараў збожжавых трэба будзе ўбраць сёлета сялянам Беларусі. Па прагнозах спецыялістаў, хлебаробы недабяруць больш за 1,5 мільёна тон як азімых, так і яравых. Але ўраджай чакаецца на ўзроўні мінулага года.

ЧАЦВЁРА нашых юных біёлагаў — двое школьнікаў з Мінска і па аднаму з Віцебска і Магілёва — прынялі ўдзел у Міжнароднай алімпіядзе, якая праходзіла ў галандскім горадзе Утрэхт. Усе чацвёра — пераможцы рэспубліканскай алімпіяды школьнікаў па біялогіі.

МІНЧАНЕ не хочуць наведваць кінатэатры, бо білеты ў кіно сталі надта дарагімі. У кінатэатры "Масква", самым прэстыжным у сталіцы, білеты на вячэрнія сеансы — ад 150 да 200 рублёў. Таму з 1 070 месцаў тут цяпер звычайна бывае запоўнена крыху больш за палавіну. Так і ў астатніх кіназалах Мінска.

НА ЎЛІКУ ў Мінскім наркалагічным цэнтры сёння 24 тысячы чалавек. Але, па звестках кіраўнікоў цэнтра, гэта вельмі прыблізная лічба: значная частка хворых на алкагалізм не ўлічана. Пацыенты цэнтра таксама 1 200 падлеткаў.

РАСКРЫТА і забаронена дзейнасць падпольнай беларуска-германскай фірмы "АіБ", якая займалася нібыта пасрэдніцтвам. За 60 долараў аферысты абяцалі кліенту добрую работу ў Германіі. Удалося "злавіць" на гэтую прынаду 600 чалавек.

ПОЛАЦКАЯ Сафія можа абрынуцца. Да такой высновы прыйшлі аўтарытэтныя спецыялісты. У Сафійскім саборы з"явіліся сотні трэшчын пасля рэстаўрацыі, якая была праведзена 10 гадоў назад. Спецыялісты ламаюць галаву: у чым прычына? Памылка рэстаўратараў, будова маста паблізу Сафіі ці грунтавыя воды?

ТОЛЬКІ грамадзяне Рэспублікі Беларусь або замежныя беларусы могуць падаваць дакументы ў нашы ВНУ. Замежныя грамадзяне змогуць паступаць у беларускія вышэйшыя навучальныя ўстановы толькі пасля падпісання адпаведных міжурадавых пагадненняў.

*АД АТЛАНТЫКІ ДА УРАЛА*




**Мінск гасцінна сустрэў удзельніка велапрабегу Міру "Ад Атлантыкі да Урала" 78-гадовага Георгія Красоўскага (на здымку). Былы расіянін, ён цяпер жыве ў Францыі, аднак падданства гэтай краіны так і не прыняў.**

**Г. Красоўскі — ініцыятар трынаццаці велапрабегаў Міру. Ён выдае газету, на старонках якой друкуюцца матэрыялы антываеннай накіраванасці, а таксама ў абарону правоў чалавека.**

*РАЗЗБРАЕННЕ*

### БЕЗ ДАПАМОГІ НЕ АБЫСЦІСЯ

**Саветнік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі па пытаннях знешняй палітыкі Валерый Цапкала не выключае, што хутка рэспубліка звернецца да сусветнай супольнасці па дапамогу ў рэалізацыі праграм па скарачэнню звычайных узбраенняў у Еўропе. Ён лічыць магчымым спыненне ў бліжэйшы час "канвеера знішчэння танкаў і іншай бронетэхнікі ў сувязі з недахопам фінансавых сродкаў".**

**Паводле афіцыйных даных, па Дагавору аб звычайных узброеных сілах у Еўропе Беларусь абавязана скараціць 2 171 танк, 167 самалётаў, 1 087 БМП, 333 бронетранспарцёры. З іх ужо знішчана 224 танкі, 10 самалётаў, 146 БМП і 156 бронетранспарцёраў.**

**Паводле даных В. Цапкала, цяпер Беларусь траціць на скарачэнне баявой тэхнікі ў 1,6 раза больш, чым на гэтыя ж мэты расходуе ЗША, Англія і Францыя, разам узятыя.**

*ПРАЗ БЕЛАРУСЬ*

### ЭКСПАРТНЫ ГАЗАПРАВОД

**Згодна з папярэднім тэхніка-эканамічным абгрунтаваннем, траса экспартнага газаправода з Расіі ад разведаных на паўвостраве Ямал газавых радовішчаў пройдзе праз Беларусь. Газ будзе пастаўляцца ў Польшчу і Германію. Ужо падпісаны пратакол аб намерах з Беларуссю, Польшчай і Германіяй на будаўніцтва новага, ямальскага газаправода. Беларусь і Польшча мяркуюць купляць адсюль па 5 мільярдаў кубаметраў газу ў год.**

## ЧАГО КАШТАВАЛА НАШАМУ НАРОДУ ПРЫРУЧЭННЕ АТАМА

# ЗАДОЎГА ДА ЧАРНОБЫЛЯ

ДЗВЕ ПАДЗЕІ зрабілі 1945 год назаўсёды памятным і знамянальным для ўсяго чалавецтва. Першая — гэта, канешне ж, заканчэнне другой сусветнай вайны, другая — выпрабаванне амерыканцамі ядзернай бомбы. З таго моманту, як сумна вядомы самалёт "Энола Гэй", кранальна названы так палкоўнікам Цібетсам у гонар яго любімай маці, скінуў атамную бомбу на японскі горад Хірасіму, пачаўся адлік ядзернай эры Зямлі. У лічаныя секунды старажытны горад ператварыўся ў самыя вялікія на свеце могілкі, амерыканцы атрымалі унікальныя даныя жудаснага эксперымента, а наша дзяржава — наймацнейшы штуршок да развіцця ядзерных даследаванняў. Як зусім нядаўна ўся краіна працавала пад лозунгам: "Усё для перамогі", так з гэтага часу лепшыя навуковыя сілы і неабмежаваныя сродкі ў амаль разбуранай дзяржаве ішлі на стварэнне сваёй уласнай ядзернай зброі. За яе былі гатовы заплаціць любую цану. 1949 год стаў яшчэ адной вяхой на шляху скарэння атама і годам нашага трыумфу: была створана першая айчынная атамная бомба.

Калі ж трыумф пачаў ператварацца ў трагедыю? Напэўна, адразу. Хірасімы ў нас не было, а без даных аб эфектыўнасці, моцы і ўздзеянні новай зброі не абысціся. Пачаліся выпрабаванні, у якіх вельмі часта ў навуковых мэтах у якасці паддоследных пацукоў выкарыстоўваліся людзі, якія не мелі ніякага ўяўлення, што з імі рабілі і якія вынікі гэта будзе мець. А тыя, хто па абавязку службы ведаў і разумеў, што адбываецца, давалі падпіску аб захоўванні дзяржаўнай тайны тэрмінам на 25 гадоў. Але ж Ігар Купрыянаў, які сёння ўзначальвае Беларускі камітэт ветэранаў падраздзяленняў асобай рызыкі, у адказ на некаторыя мае пытанні сказаў, што пры яго званні і ведах аб падзеях таго часу гэтая падпіска дзейнічае ўсё жыццё. Ігар Купрыянаў лічыць, што ўвагу на людзей, якія тады, у 50-я гады, удзельнічалі ў стварэнні і выпрабаваннях ядзернай зброі, дапамог звярнуць Чарнобыль. Калі мірны атам (дарэчы, які ён мірны, калі графітавы ядзерны рэактар, што ўзарваўся вясной 1986 года, быў створаны яшчэ і для таго, каб, акрамя электраэнергіі, адначасова выпрацоўваць плутоній для боегаловак савецкіх міжкантынентальных балістычных ракет) выйшаў з-пад кантролю яго стваральнікаў, вельмі хутка з"явіліся шматлікія публікацыі ў прэсе, дзе даследавалася не толькі чарнобыльская катастрофа, але і ўвесь шлях "прыручэння" гэтага віду энергіі.

Ігар Купрыянаў гаворыць стрымана, і бачна, што думае над кожным словам. Усё падаецца цікавым у расказе чалавека, які 29 гадоў свайго жыцця аддаў справе стварэння ядзернай зброі і сёння ўзначальвае камітэт, што аб"ядноўвае беларусаў, якія задоўга да Чарнобыля даведаліся пра радыяцыю, рэнтгены, прамянёвую хваробу... Але ж хто ў тыя гады думаў пра такія "дробязі"? Было імкненне абараніць Радзіму, не дапусціць новай вайны, быў гонар за сваю выдатную працу і разуменне таго, што справа, якую рабілі, важнейшая за жыццё. Быў зусім іншы настрой, ды і лішніх пытанняў тады проста не задавалі.

Сам Ігар Купрыянаў, які працаваў тады на зборцы ядзернай зброі, сур"ёзна аб сваёй рабоце задумаўся падчас Карыбскага крызісу. Тады працавалі дзень і ноч, рыхтуючы ракеты да баявога дзяжурства. Пачыналі рана, заканчвалі позна, і часу, каб асэнсаваць падзеі, практычна не заставалася. Але ж вельмі хутка работа была наладжана, з"явіўся час падумаць пра тое, што адбывалася. І вось тады ўпершыню Купрыянаў зразумеў, што не толькі ён з сябрамі зараз не спіць начэй і рыхтуе ракеты да каманды: "Ключ на старт!", але і які-небудзь Джон ці Джэк там, за акіянам, займаецца тым жа самым, толькі яго ракеты глядзяць трохі ў іншы бок... Але да канца, як блізка ў тыя дні быў свет да новай вайны, ён зразумеў, калі пасля кубінскіх падзей яму давялося займацца ядзернымі прыпасамі тарпед і крылатых ракет. На тарпедах былі сляды марской солі, а гэта азначала, што яны ўжо былі ў тарпедным апараце і сутыкаліся з марской вадой. Да гэтага часу Купрыянаў з вялікай павагай ставіцца да прэзідэнта Кенэдзі за яго розум і здаровы сэнс, бо ў тое, што Хрушчоў змог бы спыніцца першым, ён не верыць.

У 70-я гады, калі ўсе нашы газеты і часопісы пісалі аб тым, як імперыялісты раздзімаюць вогнішча трэцяй сусветнай вайны, а на заводах і ў калгасах швачкі і даяркі гнеўна выкрывалі амерыканскую ваеншчыну, Купрыянаў задумаўся зноў. Наша адставанне ад амерыканцаў на старце было вялікім: чатыры гады — тэрмін у такой справе значны. Але калі да 70-х гадоў мы дасягнулі парытэту па ядзернай зброі і ракетах, значыць, пастаянна развівалі ваенную прамысловасць і нарошчвалі тэмпы вытворчасці зброі мы, а не яны. Гаварыць у той час пра гэта ўслых не мела ніякага сэнсу хаця б таму, што за спіной у кожнага, хто меў сур"ёзнае дачыненне да атамнай прамысловасці, стаяла, бадай, адзіная зладжана і надзейна працаваўшая пры ўсіх кіраўніках структура — КДБ. Умяшанне гэтага ведамства ў справы "засакрэчаных" людзей было ўсёпранікальным і бесцырымонным: здаралася, тэлефонныя размовы перарываліся сярод фразы, калі той, хто "кантраляваў" іх, вырашаў, што субяседнікі выходзяць за рамкі дапушчальнага.

Пра Чарнобыль Купрыянаў упершыню пачуў у Цхалтуба, дзе адпачываў. Сапраўдных памераў трагедыі не ведаў і толькі, калі вярнуўся ў Мінск, зразумеў, што адбылося. Тады ж даведаўся і пра аптымістычныя лічбы афіцыйных зводак аб узроўні радыяцыйнага забруджвання. Купрыянаў з яго вопытам, ведамі і інфармаванасцю такі погляд на катастрофу не падзяляў, але яму параілі згадзіцца з афіцыйнай версіяй і не займацца самастойнымі даследаваннямі. І ўсё ж Купрыянаў працягваў рабіць замеры. Чаму? Напэўна, таму, што лепш за іншых разумеў памеры трагедыі, ведаў, у чым небяспека, як трэба ратавацца і што рабіць. Ён, інжынер, ваенны, які амаль трыццаць год жыцця аддаў справе, звязанай з ядзернай зброяй, як ніхто, разумеў, чым можа абярнуцца маўчанне і хлусня. А ўвогуле, гэта проста нармальныя паводзіны сумленнага чалавека, які прывык думаць не толькі пра сябе. Напэўна, гэты матыў ляжаў і ў аснове рашэння Купрыянава стварыць Камітэт ветэранаў падраздзяленняў асобай рызыкі, людзей, якія некалі мелі дачыненне да стварэння ці выпрабавання ядзернай зброі. Як дапамагчы тым, хто некалі будаваў "ядзерны шчыт Радзімы", а сёння не мае грошай на лекі, каб залячыць былыя раны? Купрыянаў марыць, каб іх прыраўнялі па статусу да чарнобыльскіх ліквідатараў і далі хаця б сякія-такія льготы. Але ж паспрабуй дакажы сёння, што чалавек трыццаць год таму ўдзельнічаў у выпрабаванні ядзернай зброі. Для ўдзелу ў вядомых сёння Тоцкіх вучэннях быў выкарыстаны корпус, дыслакаваны ў Брэсце, а дакладней, 12-я і 50-я дывізіі. Спісы афіцэраў, занятых у вучэннях, захаваліся. Што датычыцца салдат — ці тыя спісы згубіліся, ці тады наогул не лічылі патрэбным іх складаць. Вось і дакажы сёння, што гэта над тваёй галавой тады бомбу ўзрывалі... Да таго ж архівы, у якіх знаходзяцца патрэбныя дакументы, сёння ў іншай дзяржаве, адкуль не спяшаюцца дасылаць адказы на запыты. А час бяжыць, і людзі адыходзяць, не дачакаўшыся хаця б падзякі за тое, што некалі, не задумваючыся, аддавалі Радзіме здароўе і жыццё. Выкарысталі і выкінулі, як непатрэбны, што адпрацаваў сваё, механізм. Маўляў, клапаціцеся пра сябе самі, а ў дзяржавы зараз ёсць больш важныя справы. Хаця якія справы для прыстойнай дзяржавы важнейшыя за жыццё і здароўе яе грамадзян? Канешне, пэўныя, станоўчыя змены ўсё ж такі адбыліся, аб чым сведчыць хаця б гэты артыкул, які не так даўно не меў бы ніякіх шанцаў з"явіцца ў друку. Але ці ідуць змены далей слоў на паперы? Калі пасля распрацоўкі статута і іншых заканадаўчых дакументаў надышоў час афіцыйна рэгістраваць камітэт, высветлілася, што за гэтую працэдуру трэба праціць грошы, на той час 30 тысяч рублёў. Купрыянаў вырашыў папрасіць дапамогі ў Міністэрстве абароны, якое некалі накіроўвала членаў будучага камітэта на іх небяспечную працу. Давялося месяц чакаць чаргі на прыём, каб даведацца, што такой сумы ў аднаго з самых буйных міністэрстваў, на жаль, няма. Наша дзяржава ніколі не шкадавала грошы на танкі і ракеты і заўсёды забывалася на людзей, бо яны цаніліся і каштавалі значна танней за добрую тэхніку. Час мяняецца, традыцыі захоўваюцца. Давялося дзейнічаць дзедаўскім спосабам — капялюш па кругу...

Калі падчас нашай размовы Купрыянаў сказаў, што рызыка смерці ў іх рабоце ў 2,5 раза большая, чым у лётчыка-выпрабавальніка, каб даказаць мне праўдзівасць сваіх слоў, ён звярнуўся да артыкула "Смертаносная ядзерная спадчына Саветаў" Джона-Тора Дальбурга, надрукаванага ў амерыканскім часопісе "Рыдэрз Дайджэст". Убачыўшы маё здзіўленне, Купрыянаў растлумачыў, што амерыканскім даным аб савецкіх ядзерных даследаваннях давярае больш, чым айчынным, да таго ж, калі нехта ў яго запытаецца, адкуль ён узяў лічбы, можна адразу ж прад"явіць першакрыніцу, і тады ніхто не зможа сказаць, што ён хлусіць ці выдае дзяржаўную тайну. Цікава, што яшчэ павінны надрукаваць амерыканскія часопісы, каб мы ў рэшце рэшт звярнулі ўвагу на тых, чыё здароўе і жыццё некалі выкарыстала Радзіма, не запытаўшы ні іх згоды, ні дазволу.

Сёння Ігар Купрыянаў, старшыня Камітэта ветэранаў падраздзяленняў асобай рызыкі, працуе інжынерам кафедры вытворчай і экалагічнай бяспекі Мінскага радыётэхнічнага інстытута. Сам Купрыянаў нічога знамянальнага ў шляху ад асобай рызыкі да экалагічнай бяспекі не бачыць, мне ж гэта падалося сімвалічным. Жыццё ў рэшце рэшт усё расстаўляе па сваіх месцах.

**По просьбе членаў камітэта друкуем яго рахунак: 700925 у Першамайскім аддзяленні акцыянернага камерцыйнага беларускага прамбудбанка. Код банка — 359.**

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

---

## ВАЦЛАЎ ЖЫДЛІЦКІ: "НА СЁННЯ АДЗІНАЙ КРЫНІЦАЙ ІНФАРМАЦЫІ ПРА РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ ЁСЦЬ ДЛЯ МЯНЕ "ГОЛАС РАДЗІМЫ"

# ТАКІ ГЛЫБОКІ АБРЫЎ



— Вы наведалі, сябра Вацлаў, новую дзяржаву, — пажартаваў я ў аэрапорце "Мінск-2", калі Вацлаў Жыдліцкі ўладкаваўся на сядзенні.

— Так, але і сам я — таксама з новай дзяржавы, — усміхнуўся Вацлаў Яраслававіч.

На гэты раз з Прагі, сталіцы Чэшскай Рэспублікі, у Мінск, сталіцу Рэспублікі Беларусь, наш даўні сябар — прафесар Карлава універсітэта, ляцеў праз Вену. Ён быў запрошаны на Міжнародную канферэнцыю "Талерантнасць і грамадскія адносіны", дзе выступіў з дакладам. А з 28 чэрвеня па 2 ліпеня прымаў удзел у Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Рым-4", якая праходзіла ў Гародні. Разам з іншымі вучонымі з розных краін абмяркоўваў праблемы суадносін нацыянальных і рэгіянальных культур сумежжа. Вацлаў Жыдліцкі, да таго ж, браў удзел і ў рабоце З'езда беларусаў свету.

Нават калі гаварыць без гумару, чэха Вацлава Жыдліцкага можна лічыць сапраўдным беларусам: гаворыць па-беларуску намнога лепш, чым нашая прафесура ці акадэмічныя член-коры, дасканала ведае гісторыю беларускай дзяржаўнасці, карэнні нашае літаратуры. Ён больш як 30 гадоў свайго жыцця аддаў на алтар беларуска-чэшскага спараднення. За гэты час, акрамя значных літаратуразнаўчых работ, ён пераклаў і выдаў у сваёй краіне больш за 30 кніг 14 беларускіх празаікаў. Да таго ж, прапагандуе беларускую мову і літаратуру як педагог, як сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Яму уручана Ганаровая грамата Вярхоўнага Савета рэспублікі, медаль Францыска Скарыны.

Але вернемся да першых хвілін знаходжання д-ра В. Жыдліцкага ў Рэспубліцы Беларусь. Па дарозе ў горад я запытаўся:

— Сябра Вацлаў, як вам здалёк бачыцца нашая новая дзяржава?

— У апошні час я слаба арыентуюся ў беларускім Адраджэнні. Адзінае, што зараз даходзіць да мяне ў Прагу, гэта газета "Голас Радзімы". Яна — адзіная крыніца інфармацыі пра вашае палітычнае і культурнае жыццё. І, на жаль, Мінск не наладзіў да гэтага часу аніякіх дыпламатычных стасункаў з Прагаю. Пакуль што не працуе ў нас і Таварыства дружбы з народамі СНД...

— Ці не лепш будзе прасіць вас быць прадстаўніком Беларусі ў Празе?

— Пра дыпламатычныя пытанні хай лепш турбуецца вашае Міністэрства замежных спраў. Бо, напрыклад, планы ўшанавання Скарыны ў Празе так і засталіся на паперы. Некаму рухаць хаця б вось гэты скарынаўскі воз...

... Падумалася: мы маем такі магутны мацярык шматвяковых творчых узаемасувязяў. І раптам такі глыбокі абрыў...

Але ёсць і надзея. Беларусаў яшчэ раз наведаў наш даўні прыяцель, шчыры спадкаемца і памочнік. Мо, гледзячы на яго, хтосьці з нас і пасаромеецца сваёй нехлямяжнасці. Ёсць нам да каго прыгарнуцца ў славянскай Еўропе!

P.S. А сябра Вацлаў так і не пастарэў за гэтыя 30 гадоў супрацоўніцтва з беларускім Словам. Поспехаў і творчага натхнення яму — на доўгія леты!

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

**НА ЗДЫМКУ: В. ЖЫДЛІЦКІ ў майстэрні А. МАРАЧКІНА. 1978 г. Фота аўтара.**

---

# ТРОХГОДДЗЕ ВЫГОДСКІХ

Шэраг грамадскіх арганізацый і культурна-асветных устаноў Гомеля выступілі з ініцыятывай абвясціць 1993—1996 гады трохгоддзем Выгодскіх у Гомелі. Прапаноўваецца наладзіць міжнародную канферэнцыю па навуковай і літаратурнай спадчыне, а гэтаксама заснаваць Таварыства Выгодскіх і семінары ў Гомелі, якія дзейнічалі б пастаянна. Мяркуецца таксама правесці працу па вызначэнні ў горадзе памятных мясцін, звязаных з лёсам двух славутых землякоў.

Давід Ісакавіч Выгодскі — вядомы літаратуразнаўца, перакладчык і арганізатар міжнародных літаратурных сувязяў. Працаваў у галіне іспаністыкі і лацінаамерыканістыкі. Пераклаў на рускую мову творы іспанскіх, партугальскіх, беларускіх і яўрэйскіх пісьменнікаў. Выгодскі быў адным з арганізатараў іспана-амерыканскага таварыства ў Ленінградзе. Вывучаў і папулярызаваў яўрэйскую літаратуру.

А Леў Сямёнавіч Выгодскі нарадзіўся ў лістападзе 1896 года ў Оршы. Вядомы як выдатны вучоны-псіхолаг. Працы Выгодскага па вывучэнню структуры свядомасці аказалі значны ўплыў на развіццё сусветнай псіхалагічнай навукі. З 1897 па 1924 год жыў у Гомелі, працаваў у шэрагу гомельскіх агульнаадукацыйных і культурных устаноў, дзе сабраў матэрыял для сваіх наступных прац і сфарміраваўся як вучоны.

Для цікаўных падказваем адрас арганізацыйнага камітэта, створанага па ініцыятыве Гомельскай яўрэйскай гісторыка-асветніцкай арганізацыі "Талдот вэаскала" ("Гісторыя і адукацыя"): Рэспубліка Беларусь, 146049, Гомель, абанементная скрыня 114, аргкамітэт трохгоддзя Выгодскіх.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## НАКІДЫ ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

# БЕЛАРУСЫ Ў АЎСТРАЛІІ

Аўстралія сёння, магчыма, самая шматнацыянальная краіна свету. Тут жывуць прадстаўнікі 140 нацыянальнасцей, якія размаўляюць на 90 мовах. Да другой сусветнай вайны насельніцтва пятага кантынента амаль цалкам было прадстаўлена выхадцамі з Брытанскіх астравоў. Пасля вайны сітуацыя змянілася. У Аўстралію пацягнуліся жыхары многіх краін.

Першыя беларускія эмігранты прыехалі ў Аўстралію ў канцы 20-х гадоў XX стагоддзя. Гэта былі жаўнеры былых вайсковых часцей, якія пасля кастрычніцкага перавароту і грамадзянскай вайны ў Расіі разам з іншымі ўцекачамі апынуліся ў Маньчжурыі, галоўным чынам у Харбіне. "Харбінцы", як іх называлі, эмігрыравалі ў розныя краіны, у тым ліку і ў Аўстралію, дзе засяродзіліся пераважна ў Брысбене і Сіднеі. Сярод эмігрантаў беларусаў было няшмат. Гэта былі людзі розных узростаў, лёсу і дастатку, моцна зрусіфікаваныя і ніякай беларуска-нацыянальнай актыўнасці, тым больш дзейнасці не праяўлялі, хоць лічылі сябе беларусамі.

Пасля другой сусветнай вайны пачалася новая хваля эміграцыі ў Аўстралію. Гэта краіна стала новым цэнтрам эміграцыі нароўні з традыцыйнымі — ЗША, Канадай, Францыяй, Бельгіяй. У Аўстралію прыехала значная колькасць гэтак званых "перамешчаных асоб". За 1948—1951 гады ў краіну прыбыло 167 тысяч чалавек, сярод якіх былі і беларусы. Але колькі — невядома. Выдзяленне беларусаў у самастойную нацыянальную групу Аўстралійскае бюро статыстыкі і штатавыя дэпартаменты "Камюніты сэрвіс" не ўзялі. Абедзве гэтыя ўстановы падавалі колькасць беларусаў супольна з расейцамі. Зараз, па афіцыяльных беларускіх крыніцах, у Аўстраліі пражывае каля 10 тысяч беларусаў.

Цяжкім быў пачатак жыцця ў Аўстраліі для нашых суродзічаў. Усе імігранты, без уліку іх спецыяльнасці і жадання, былі заняты ў асноўным на фермах, у шахтах і на некваліфікаваных работах, там, дзе аўстралійскія рабочыя працаваць пазбягалі. Трэба адзначыць, што прадстаўнікі паваеннай хвалі беларускай эміграцыі былі больш нацыянальна свядомыя за сваіх суайчыннікаў, што прыбылі туды ў 20-я гады. Пасля сканчэння двухгадовых працоўных кантрактаў беларусы пачалі пакідаць капальні, сельскую мясцовасць і гуртавацца, уладкоўваць сваё жыццё ў вялікіх гарадах — Сіднеі, Пэрце, Адэлаідзе, Мельбурне.

Пачатак грамадскай працы ў 50-х гадах быў у беларускіх абставінах таксама цяжкім. Невялікая колькасць інтэлігенцыі, што прыехала з лагераў Нямеччыны, адсутнасць сваіх святароў, адарванасць ад суродзічаў у іншых краінах — усё гэта спрычынілася да таго, што беларускія групы былі аднымі з найслабейшых у Аўстраліі. Не спрыялі развіццю нацыянальна-грамадскай дзейнасці і існуючыя палітычныя рознагалоссі ў эмігранцкім асяроддзі, але ўсё ж праца пачала разгортвацца, і высілкамі асобных вядомых дзеячаў тое-сёе рабілася. Былі спробы стварыць агульныя, супольныя з эмігрантамі з іншых краін арганізацыі. Так, у цяжкую пару дапамогу і ўсялякую добразычлівую падтрымку беларусам аказалі ўкраінцы. З ініцыятывы У. Грушэцкага, М. Алійніка, Я. Яворскага, А. Казачынскага ў 1952 годзе ў Мельбурне было створана Беларуска-ўкраінскае таварыства прыязні, якое ладзіла сустрэчы, рэфераты, распаўсюджвала веды пра Беларусь і Украіну.

Як і ў іншых краінах, у Аўстраліі існавалі дзве ўплывовыя грамадска-палітычныя плыні сярод беларусаў — паслядоўнікаў і прыхільнікаў БНР і БЦР. У штаце Вікторыя пасля шматлікіх спатканняў і пасяджэнняў прадстаўнікі гэтых груп заснавалі ў 1963 годзе Беларускі цэнтральны камітэт (БЦК). Актыўнасць БЦК праяўляецца ў шмат якіх кірунках. Управа камітэта супрацоўнічае з міжнароднымі арганізацыямі. БЦК уваходзіць у склад Рады паняволеных народаў і прадстаўляе беларусаў ва ўсіх мерапрыемствах гэтай арганізацыі. Былі ў Беларускага цэнтральнага камітэта неаднаразовыя спробы арганізацыйна аформіць і моладзь штата, якія, аднак, заканчваліся безвынікова. Але патрэба ў маладзёжным згуртаванні адчувалася па-ранейшаму і ніколі не знікала з поля зроку старэйшага пакалення. Таму з такой вялікай прыемнасцю ўправа БЦК вітала арганізацыйны сход беларускай моладзі, які адбыўся 30 мая 1971 года. У створаны Саюз беларускай моладзі ў Мельбурне напачатку запісалася 17 чалавек.

Беларускае аб'яднанне ў Новым Паўдзённым Уэльсе як нацыянальная арганізацыя было заснавана ў 1950 годзе і з першых дзён існавання пачало барацьбу з хістаннямі то ў бок БНР, то да БЦР. У 1952 годзе на з'ездзе было вырашана падпарадкавацца адзінай арганізацыі, якая, на думку ўсіх, на той час законна прадстаўляла беларускую справу, нацыянальную ідэю стварэння незалежнай Беларусі, — гэта Радзе і ўраду БНР. За прыкладам іншых беларускіх арганізацый Беларускае аб'яднанне ў Новым Паўдзённым Уэльсе звярнулася да Аўстралійскага сектара Рады БНР з просьбай каардынаваць у далейшым яго дзейнасць. Таксама было вырашана выдаваць свой інфармацыйны бюлетэнь. Пасля стварэння Беларускага культурна-грамадскага клуба многія дзейныя і найбольш свядомыя члены Беларускага аб'яднання ўключыліся ў працу клуба, і надалей абедзве гэтыя арганізацыі дзейнічалі сумесна.

Група беларусаў у Заходняй Аўстраліі аддзелена ад іншых беларускіх асяродкаў вялікімі прасторамі, і гэта, безумоўна, налажыла свой адбітак на яе арганізацыйнае жыццё. Першае ў Заходняй Аўстраліі беларускае згуртаванне было заснавана ў студзені 1951 года. Беларуская грамада ў гэтым штаце самая невялікая па колькасці і таму слабая. Але ўтрымацца дапамаглі суродзічы ў вольным свеце. У 1968 годзе згуртаванне атрымала назву Беларускае аб'яднанне ў Заходняй Аўстраліі (БАЎЗА), а мэтай існавання акрэсліла далучэнне ўсіх суродзічаў да грамадскай працы, дапамога ім у складаных момантах жыцця. На эфектыўнасці працы БАЎЗА таксама адмоўна адбілася адсутнасць арганізацыі моладзі, але з 1986 года зазначыўся пералом. Моладзь пачала браць актыўны ўдзел у грамадскай працы, займаць адказныя пасады і выконваць галоўныя функцыі ў мясцовай дзейнасці.

З іншых беларускіх грамадскіх арганізацый трэба адзначыць Згуртаванне беларускіх ветэранаў у Аўстраліі, Беларускі вызвольны фронт, Задзіночанне беларускіх камбатантаў, Каардынацыйны камітэт беларускіх арганізацый, Аўстралійскую раду БНР, Беларускі клуб у Мельбурне, Беларускі культурна-грамадскі клуб у Сіднеі і інш. Існуюць жаночыя групы ў Мельбурне, Сіднеі, пры Беларускіх культурна-грамадскіх клубах, жаночыя секцыі на радыё паняволеных народаў і Беларускіх штатавых радыёкамітэтах.

Да пачатку 70-х гадоў аўстралійскі ўрад упарта праводзіў палітыку асіміляцыі насельніцтва неанглійскага ці неірландскага паходжання. Але ўжо нельга было не ўлічваць той факт, што ў краіне было каля 2,3 тысячы этнічных арганізацый. Уклад перасяленцаў у пасляваеннае развіццё Аўстраліі быў вельмі значным і карысным. І далей ігнараваць існаванне многіх нацыянальных груп было немагчыма. Ды і сама краіна пад наплывам еўрапейскай эміграцыі крыху "еўрапеізавалася", у грамадскім жыцці прыжыліся некаторыя элементы еўрапейскага ладу жыцця. У 1973 годзе да ўлады прыйшла лейбарысцкая партыя і настаў новы час для эмігрантаў. Не было ўжо і гаворкі аб абмяжоўванні правоў нацыянальных груп. Наадварот, стала гаварыцца аб інтэграцыі і палітыцы шматкультурнасці паводле канадскага ўзору. Перад беларускімі асяродкамі адкрыліся значныя магчымасці, якіх яны перад гэтым не мелі, і трэба было іх належна выкарыстаць.

Значную ролю ў грамадскім і культурным жыцці беларусаў Аўстраліі адыгрываюць супольныя сустрэчы. Першая адбылася ў 1976 годзе ў Мельбурне і стала важнай падзеяй не толькі ў жыцці і дзейнасці нашых суродзічаў у Аўстраліі, а і беларускага арганізаванага жыцця ў цэлым вольным свеце. На гэтай сустрэчы была выбрана Федэральная рада беларускіх арганізацый у Аўстраліі (ФРБАА) — агульнааўстралійскі беларускі рэпрэзентацыйны орган. Падчас другой сустрэчы (Сідней, 1978 год) у ФРБАА ўваходзіла 11 беларускіх арганізацый. У асноўным яны супрацоўнічалі ў ладжанні нацыянальных святкаванняў, розных іншых мерапрыемстваў ды рэпрэзентавалі Беларусь у вонкавым свеце. На чацвёртай сустрэчы (Мельбурн, 1980 год) былі прыняты папраўкі ў статуце ФРБАА і сябрамі Федэральнай рады сталі 13 арганізацый. Нававыбраны выканаўчы камітэт адзначыў, што не будзе ўмешвацца ў дзейнасць, крытыку або спрэчкі паасобных арганізацый, а прыкладзе сілы і здольнасці да ўзмацнення згоды, супрацоўніцтва і павагі паміж членамі рады. Шмат беларусаў у многіх краінах жадалі б дасягнуць таго паразумення, якое набылі іх суродзічы ў Аўстраліі, а яно, у сваю чаргу, стала магчымым дзякуючы старанням кіраўнікоў і дэлегатаў арганізацый. Вынікі сустрэчы можна ацаніць як найбольшае нацыянальнае дасягненне, бо яна аб'яднала да творчай працы ў адну 13 беларускіх арганізацый. З гэтай сустрэчы наступныя сходы беларусаў сталі адбывацца адзін раз у два гады па чарзе ў Сіднеі, Адэлаідзе і Мельбурне. На іх абмяркоўваюцца пытанні грамадскай дзейнасці і царкоўнага жыцця беларускай эміграцыі, заслухоўваюцца даклады і паведамленні, адзначаюцца гадавіны вядомых гістарычных падзей Беларусі, ушаноўваецца памяць вялікіх сыноў Бацькаўшчыны. І, вядома, гэтыя сустрэчы — цудоўная магчымасць пабачыцца з сябрамі, паразмаўляць, пазнаёміцца адзін з адным.

Існуе яшчэ адна тэма, якую не абыходзілі ні ў афіцыйных, ні ў прыватных размовах на апошніх сустрэчах. Гэта боль беларускай зямлі — Чарнобыль. Аўстралійскія суайчыннікі рабілі захады перад парламентам краіны аб прызнанні права на сталае пасяленне імігрантаў з забруджаных радыяцыяй тэрыторый Беларусі, збіралі грошы ў Фонд Чарнобыля, прымалі на лячэнне і адпачынак дзяцей.

Беларускія эмігранты праз свае арганізацыі, грамадска-культурныя клубы, творчыя суполкі прымаюць удзел як у сваіх нацыянальных, культурных і грамадскіх мерапрыемствах, так і ў аўстралійскіх. Вельмі патрыятычна штогод адзначаюць беларусы Аўстраліі Дзень 25 сакавіка, гадавіну Слуцкага паўстання, значныя падзеі жыцця беларускага народа. Важным з'яўляецца ўдзел беларусаў у міжнацыянальных арганізацыях. Дзейнасць гэта проста неабходна. Міжнацыянальныя арганізацыі ладзяць розныя сумесныя выступленні, канцэрты, выстаўкі, фестывалі, балі. І прымаючы ўдзел у гэтых мерапрыемствах, беларусы папулярызуюць сваё імя. Так, беларускія арганізацыі ўдзельнічаюць ва ўсіх акцыях Тыдня паняволеных народаў, падтрымліваючы барацьбу за свабоду асобы, нацыянальную незалежнасць, права народаў на самавызначэнне. На кангрэсе паняволеных народаў (Сідней, 1974 год) беларуская дэлегацыя праявіла сябе вельмі актыўна, часта збіраючы галасы падтрымкі ў дыскусіях. У мерапрыемствах Тыдня этнічных культур беларусы пачалі ўдзельнічаць з сярэдзіны 70-х гадоў, і заўсёды іх выстаўкі, канцэртныя нумары вызначаюцца сваімі адметнымі рысамі.

Культурная дзейнасць беларускай эміграцыі не абмяжоўваецца толькі сваім асяроддзем. Беларусы ўдзельнічаюць у агульнанацыянальных і рэлігійных святах і фестывалях, культурных праграмах, якія ладзіць грамада іншых народаў, што пражываюць у Аўстраліі. Кожны год урачыста святкуецца 26 студзеня — Дзень Аўстраліі. Беларусы ахвотна збіраюцца на танцавальныя вечарыны, пікнікі і маёўкі, літаратурныя сходы. Разнастайная іх дзейнасць па захаванню прыгожых беларускіх звычаяў і традыцый, такіх, як гуканне вясны, Каляды, куцця, Купалле. У некаторых штатах існуе добрая мастацкая самадзейнасць — у Мельбурне хор, мастацкі гурток "Каліна", у іншых штатах — танцавальныя гурткі моладзі. Беларускія арганізацыі ў Аўстраліі аказваюць пасільную дапамогу беларускім культурным і асветным установам у іншых краінах. На развіццё Беларускай бібліятэкі і музея імя Ф. Скарыны ў Лондане за 1969—1987 гады было сабрана 1 519 аўстралійскіх долараў. Фінансавая дапамога аказана і Беларускаму музею ў Гайнаўцы (Польшча).

Нягледзячы на ўсе перашкоды і цяжкасці эмігранцкага жыцця, аўстралійскія беларусы і на чужыне паказалі добрыя прыкметы сваёй нацыі і на выгнанні здолелі захаваць сваю мову, традыцыі, святы, веру ў незалежнасць Беларусі.

**Анфіса ЛЯДНЁВА.**

# КАБ РАЗАМ ПІСАЦЬ ГІСТОРЫЮ РАДЗІМЫ

Падчас прэзентацыі ў Мінску 7 чэрвеня кнігі Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША" ў канферэнц-зале Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь не было ніводнага свабоднага месца.

Сустрэчу з аўтарам кнігі адкрыў міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч, які заўважыў, што зараз можна гаварыць пра сапраўдны росквіт цікавасці да гісторыі замежных беларусаў. У чым прычына такой цікавасці? На гэта пытанне вельмі добра адказаў Адам Мальдзіс, які прысутнічаў на прэзентацыі: "Раней лічылася, што існавалі нібыта дзве беларускія культуры: адна тут, на Радзіме, сапраўдная, і другая — за межамі Беларусі на эміграцыі са знакам мінус. Сёння мы зразумелі, што існуе адна беларуская сусветная супольнасць, адна беларуская культура, якую прысутнасць культуры беларускага замежжа робіць шматграннай, узбагачае яе". Сведчанне таго — кніга Вітаўта Кіпеля. Калі бярэш яе ў рукі, разумееш, які без перабольшання велізарны матэрыял давялося вывучыць і апрацаваць аўтару, каб напісаць гэтую кнігу. Інфармацыі аб жыцці і дзейнасці беларусаў у Амерыцы небагата, а значыць, папершае, трэба было адшукаць усе нешматлікія дакументы і крыніцы, а па-другое, правесці вялікую ўласную даследчую працу.

Гартаеш старонкі, разглядаеш фотаздымкі і думаеш: мо сапраўды чалавек так дзіўна створаны, што любіць, шанаваць і берагчы ён здольны толькі тое, што баіцца страціць ці незваротна страчвае назаўсёды? Колькі год яны там, у далёкай Амерыцы, памяталі пра Беларусь, будавалі свае помнікі і цэрквы, спявалі песні і складалі вершы на роднай мове, пісалі музыку і малявалі карціны, пакуль Беларусь у рэшце рэшт не ўспомніла пра іх і не запрасіла да сябе. І не для таго, каб высветліць, хто "больш сапраўдны" — той, хто ўсё жыццё жыў на Радзіме, забываючы сваю мову і гісторыю, ці той, хто жыў на другім канцы свету, але ж захаваў і памяць, і традыцыі, і культуру. Мэта сёння іншая — нарэшце стаўшы адной супольнасцю, аб"яднаць намаганні і веды, каб пісаць і рабіць сапраўдную гісторыю нашай агульнай Радзімы.

Вядома ж, не ўсё ў гэтай справе адбываецца так гладка і добра, як хацелася б, бываюць і "выдаткі", пра якія мы гаварылі пасля прэзентацыі са спадаром Мальдзісам. "Мне падаецца, — сказаў ён, — што працэс змыкання дзвюх культур вельмі замаруджаны таму, што мы тут, на Беларусі, бачым пераважна адзін бок гэтага пытання — эканамічны. Многія думаюць, што эміграцыя наша вельмі заможная, і чакаюць ад яе матэрыяльнай дапамогі. А яна нам сёння можа дапамагаць пераважна культурна, маральна. Зараз многія па-спажывецку глядзяць на нашых замежных землякоў. Так, суайчыннікі, часта адрываючы ад сябе, даюць, што могуць. Але ж гэта не лепшы шлях развіцця нашых адносін. Мы таксама павінны думаць, што мы можам зрабіць для беларускай эміграцыі, толькі тады працэс нашага збліжэння стане плённым і двухбаковым". Заўвага слушная, але ж давайце зноў вернемся да кнігі Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША".

Пачынаецца яна з карты Амерыкі, на якой паказана колькасць беларусаў у ЗША па штатах, а далей... далей, здаецца, няма пытання з жыцця нашых суайчыннікаў у Амерыцы, якое не знайшло б адлюстравання на старонках гэтага выдання — ад палітычных партый і арганізацый да мастацкіх калектываў і танцавальных груп. А ў канцы — вельмі падрабязныя геаграфічны і імянны паказальнікі, якія дапамогуць чытачу лёгка і хутка зарыентавацца ў кнізе.

З вялікай цікавасцю прысутныя сустрэлі выступленне Вітаўта Кіпеля, якому тыдзень таму на канферэнцыі "Рым IV" быў уручаны дыплом ганаровага доктара Гародзенскага універсітэта.

Пасля прэзентацыі спадар Кіпель адказаў на пытанні прысутных.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# ВЯРТАННЕ



## ЖЫЦЦЯПІС БАРЫСА УЛАДЗІМІРАВІЧА КІТА

Лідзія САВІК

Групу савецкіх вучоных Барыс Кіт суправаджаў па Амерыцы, знаёміў з яе экзотыкай, выдатнымі мясцінамі. Пабывалі яны і ў Каліфарнійскім універсітэце Бэрклі (прыгарад Сан-Францыска), які, дарэчы, мае каля 50 сваіх філіялаў ва ўсіх гарадах Каліфорніі. Універсітэт Бэрклі — цэнтр ядзерных даследаванняў усяго свету. На факультэце фізікі тады працавала 17 Нобелеўскіх лаўрэатаў. Многія з іх былі першаадкрывальнікамі новых хімічных элементаў, дапоўнілі табліцу Мендзялеева. Прафесары універсітэта запрашалі савецкіх вучоных на кактэйлі, навуковыя сустрэчы. Барыс Кіт быў у цэнтры гэтых сустрэч, перазнаёміўся з усімі Нобелеўскімі лаўрэатамі. У дні паездак з рускай групай ён найбольш сышоўся з Дзмітрыем Іванавічам Блахінцавым (1907—1979) — фізікам, дырэктарам Інстытута ядзерных даследаванняў у Дубне, кіраўніком стварэння першай у свеце атамнай электрастанцыі. Напісаў шмат работ па квантавай механіцы, атамнай і ядзернай фізіцы, тэорыі ядзерных рэактараў, фізіцы элементарных часціц, метадалогіі фізікі.

Дзякуючы гэтым сустрэчам у Амерыцы, Барыс Кіт становіцца вядомым чалавекам і ў асяроддзі савецкіх вучоных, тым больш, што на аснове грунтоўнага вывучэння і асабістага ўдзелу ў развіцці і даследаванні міжнароднай касманаўтыкі, зацікаўленасці поспехамі савецкіх вучоных у гэтай галіне ён напісаў сваю другую кнігу: "Гісторыя і сучасны стан савецкай астранаўтыкі", якая выйшла ў 1962 годзе. Пасля гэтага ён браў удзел у першых гістарычных перамовах паміж ЗША і СССР па супрацоўніцтву ў галіне касманаўтыкі, дзе зноў сустракаўся са сваімі знаёмымі, якіх некалі курыраваў у Амерыцы. І пазней, калі дэлегацыі рускіх вучоных самага рознага ўзроўню прыязджалі ў Амерыку ў рамках гэтага супрацоўніцтва, ён быў нязменным удзельнікам, дарадчыкам, кіраўніком-перакладчыкам навуковых перамоў і сустрэч.

У 1963 годзе Барыс Кіт пераходзіць на працу ў аддзел касманаўтыкі Міжнароднай карпарацыі тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі "International Telephone and Telegraph Corporation". Мэтай гэтай фірмы было даследаванне і пабудова сатэлітаў сувязі. Ён працаваў даследчыкам і дарадчыкам прэзідэнта фірмы. Шмат займаўся даследаваннем і развіццём метадаў сувязі з Месяцам. Гэта быў перыяд падрыхтоўкі падарожжа амерыканцаў на Месяц. Тут Барыс Кіт меў магчымасць больш засяродзіцца на напісанні артыкулаў у касмічныя часопісы, навуковых дакладаў, з якімі выступаў на Міжнародных кангрэсах касманаўтыкі.

У навуковым свеце Амерыкі існуе даўняя традыцыя: для ажыццяўлення вялікіх праектаў збіраць лепшыя сілы, ствараць часовыя калектывы даследчыкаў самага высокага прафесійнага ўзроўню. Аднак, калі работа падыходзіць да завяршэння, многія вучоныя, выканаўшыя сваю задачу, вымушаны шукаць іншае месца працы. Так здарылася з калектывамі, якія працавалі над запускам касмічных спадарожнікаў Зямлі. Але працягвалася праца па вынаходніцтву пілатуемых касмічных караблёў, падрыхтоўцы палёту на Месяц, і асноўны склад даследчыкаў працаваў у гэтым напрамку. Барысу Кіту не давялося шукаць іншай працы, яму была даручана матэматычная распрацоўка сродкаў сувязі ў гэтых праектах.

Матэматычная практыка сталася вельмі прыдатнай, калі пазней Барыс Кіт выйшаў з астранаўтыкі і працаваў у розных установах: Нацыянальным бюро стандартызацыі Міністэрства камерцыі, затым у штаб-кватэры арміі, у Міністэрстве камунікацый. Тут ён займаўся ў асноўным даследаваннем і развіццём метадаў павышэння эфектыўнасці адміністрацыйнай дзейнасці пры дапамозе матэматыкі. Ён вырашаў незвычайна складаныя практычныя задачы, якія прадугледжвала рацыянальнае амерыканскае грамадства, імкнучыся быць наперадзе ўсяго свету. Падчас яго працы ў бюро стандартызацыі пры прэзідэнце ЗША была створана група вучоных, куды ўвайшлі спецыялісты розных галін, у тым ліку і Барыс Кіт, для даследавання тэхналагічнага развіцця і параўнання яго паміж Еўропай (Англіяй), Амерыкай і Японіяй. Ён браў затым актыўны ўдзел у падрыхтоўцы даклада прэзідэнту Ліндану Джонсану па гэтых праблемах. Калі ў 1967 годзе ў Жэневе праводзіўся Сусветны кангрэс па стандартызацыі, Барыс Кіт быў афіцыйным амерыканскім дэлегатам на гэтым кангрэсе, быў абраны сакратаром камісіі па стандартызацыі электроннай прадукцыі, атрымаў падзяку за гэту працу.

У Амерыцы, як вядома, ужываецца англійская сістэма мер, у той час як амаль увесь свет перайшоў на метрычную сістэму (да прыкладу — амерыканскія электрычныя лямпачкі нельга выкарыстоўваць у Еўропе). Барыс Кіт, як матэматык, вылічваў, колькі сродкаў з-за гэтага губляюць амерыканцы. З групай экспертаў-эканамістаў ён падлічыў, што, напрыклад, фірме "Джэнерал электрык" каштавала 6 600 мільёнаў долараў, каб перабудаваць сваю вытворчасць. Таму многія прыватныя фірмы, якія не могуць адразу перайсці на еўрапейскія стандарты, ствараюць спецыяльныя аддзелы, якія асобна выпускаюць для Еўропы сваю прадукцыю.

Такія матэматычныя разлікі, даследаванні групы Барыса Кіта пайшлі ў Кангрэс, які пастанавіў паступова пераходзіць на еўрапейскую метрычную сістэму мер, хаця прыватным фірмам асабліва не загадаеш.

Працуючы ў матэматычным аддзеле Міністэрства камунікацый і транспарту, Барыс Кіт вырашаў праблему, як палепшыць эфектыўнасць працы транспарту пры дапамозе камп'ютэраў, колькі будзе каштаваць перанос чыгункі за горад і многія іншыя жыццёва наспеўшыя пытанні. Дзеля гэтага ён павінен быў наладжваць сувязі з даследчыцкімі цэнтрамі універсітэтаў, каб яны займаліся аналізам дзейнасці розных галін вытворчасці, інспектаваў іх працу. Усё гэта сведчыць, што Барыс Кіт заўсёды быў на стрыжні часу і, як вучоны, заўсёды знаходзіў прымяненне сваім ведам у жыцці, не замыкаўся ў вузка тэарэтычнай сферы. Уменне дапасоўваць іх да рэальнай практыкі дало магчымасць яму далучыцца да групы амерыканскіх прафесараў і зрабіць кругасветнае падарожжа напрыканцы 60-х гадоў, выступіць з лекцыямі ў многіх краінах свету (Японіі, Індыі, Мексіцы, Іспаніі, Канадзе, Англіі, Швецыі, Нарвегіі, Фінляндыі, Германіі). Чытаў ён лекцыі і ў Польшчы, у Кракаўскім універсітэце. І тут яму не раз згадвалася, што побач Радзіма — Беларусь, якая ў гады яго маладосці знаходзілася пад Польшчай. У 30-я гады польскі ўрад аб'явіў Кіта нядобранадзейным, і яму было забаронена выязджаць за мяжу, нават з турыстычнай групай. Узнікалі думкі: толькі калі вырваўся ў Амерыку, аб'ездзіў увесь свет, адчуваючы сябе вольным і патрэбным людзям.

Імкліва міналі гады ў цікавай, захапляючай дзейнасці. Аднак Барыс Уладзіміравіч знаходзіў час займацца выхаваннем сыноў, сачыць за іх навучаннем, дапамагаў набываць спецыяльнасць ва універсітэтах, матэрыяльна станавіцца на ногі. Старэйшы сын Уладзімір у сваіх прафесійных прыхільнасцях пайшоў па слядах бацькі. Ён скончыў тры факультэты: палітычных навук і замежнай дыпламатыі (дзе выкладалі Кісінджэр і Бжэзінскі) Джорджстаўнскага універсітэта ў Вашынгтоне (быў, дарэчы, выдатным спартсменам, чэмпіёнам Амерыкі па тэнісу), факультэт фізікі Мэрылендскага універсітэта (у 60-я гады моладзь захаплялася космасам, і Валодзя працаваў у касмічным цэнтры ў Вашынштоне, у аддзеле даследавання спадарожнікаў) і факультэт электроннай інжынерыі універсітэта Джорджа Вашынгтона, атрымаў ступень магістра. Цяпер высокакваліфікаваны спецыяліст у камп'ютэрнай тэхніцы працуе кіраўніком у адным з аддзелаў Міністэрства астранаўтыкі ў Вашынгтоне. Малодшы, Віктар, скончыў Мэрылендскі універсітэт, займаўся мікрабіялогіяй, пасля паступіў на медыцынскі факультэт, стаў выдатным хірургам, жыве ў Балтыморы. Паколькі адукацыя ў ЗША платная, то ўсе гады навучання адзіным спонсарам сыноў быў бацька. Атрымаўшы выдатныя, прэстыжныя прафесіі, малодшыя Кіты на сённяшні дзень высокааплачваемыя спецыялісты, удзячныя бацьку за падтрымку і дапамогу. Ён усё аддаваў дзецям і цяпер з поўнай падставай ганарыцца імі. Валодзя і Віктар, самі ўжо стаўшы бацькамі, любяць збірацца разам, хаця б раз у год, і Барыс Уладзіміравіч кожны раз на Каляды імчыць са сваёй еўрапейскай далечы на спатканне з дарагімі людзьмі, радуецца сустрэчы, магчымасці пабываць у Вашынгтоне — гэтым цудоўным, прыгожым, багатым горадзе, дзе прайшла значная частка яго жыцця.



INTERNATIONALIS
ASTRONAUTICA ACADEMIA
MCMLX

HIS CONFIRMATUM EST CHARTIS

Boris Kit

INTER SOCIOS ADJUNCTOS PARTIS
DE SCIENTIA IN CIVILIBUS INSTITUTIS
INTERNATIONALIS ASTRONAUTICÆ ACADEMIÆ
ELECTUM ESSE

1-I-MCMXCII

**Дыплом Барыса КІТА ад Міжнароднай Астранаўтычнай Акадэміі.**

### ПЕРАЕЗД У ГЕРМАНІЮ. ПЕДАГАГІЧНАЯ, ПРАФЕСАРСКАЯ ПРАЦА ВА УНІВЕРСІТЭТАХ ЕЎРОПЫ (з 1972 года)

Амерыка стала другой радзімай для беларуса Барыса Кіта, яна дала яму ўсё, што патрэбна чалавеку для нармальнага жыцця ў вольным свеце. Ён адбыўся тут як вучоны, здзейсніў свае мары і спадзяванні, тут выраслі і жывуць яго сыны. Аднак у сэрцы ўвесь час жыў вобраз Бацькаўшчыны, хоць і затуманены доўгімі гадамі расстання. Можа таму, выйшаўшы на пенсію, Барыс Кіт выбраў для сталага пражывання Германію, еўрапейскую краіну высокай культуры і высокага ўзроўню жыцця. Усё ж бліжэй да Радзімы, куды ён, нягледзячы ні на што, думаў вярнуцца! Дарэчы, ён ніколі не забываў пра Беларусь, заўсёды цікавіўся яе жыццём, добра ведаў шматпакутную гісторыю Бацькаўшчыны, бо сам быў удзельнікам многіх гістарычных падзей.

У 1972 годзе Барыс Кіт пераязджае ў Франкфурт-на-Майне — прыгожы, старажытны горад, былы цэнтр свяшчэннай рымскай імперыі, а цяпер найсучаснейшы цэнтр Еўропы, дзе па-нямецку рацыянальна спалучаюцца далёкая гісторыя і дзень сённяшні і які праз супермадэрны міжнародны аэрапорт звязаны з усімі сталіцамі свету (што, відаць, немалаважна пры мабільнасці, непаседлівасці Барыса Уладзіміравіча). Па вуліцах Франкфурта ідзеш, як па старонках гісторыі, дзе старыя гатычныя будынкі суседнічаюць з высотнымі гатэлямі, офісамі, банкамі. Незвычайную прыгажосць гораду надаюць шырокі Майн, масты, утульныя пешаходныя вуліцы з яркімі, багатымі вітрынамі шматлікіх магазінаў, помнікі славутым людзям, музеі, скверы і паркі, чыстыя дагледжаныя набярэжныя і жылыя кварталы, дзе шмат кветак, зеляніны і ні адзін дом не паўтарае другога, усё радуе і цешыць вока.

Барыс Уладзіміравіч пасяліўся ў Франкфурце-на-Майне, аднак не дзеля таго, каб цешыцца прыгажосцю і дабротамі Нямеччыны, жыць размераным спакоем заслужыўшага свой адпачынак чалавека. Ён адразу распачынае тут педагагічную дзейнасць, якая амаль не перапынялася з часоў школьніцтва на Беларусі. Таленавіты педагог, выдатны матэматык, Барыс Кіт і ў Вашынгтоне, нягледзячы на занятасць навуковай, даследчыцкай працай, выкладаў матэматыку ў Мэрылендскім універсітэце ў Калэдж-Парк на вячэрнім факультэце. Тут вучыліся дарослыя людзі, якія хацелі мець вышэйшую адукацыю. Мэрылендскі універсітэт разгарнуў свае філіялы па ўсяму свету (існуе прымаўка, што ў Мэрылендскім універсітэце не заходзіць сонца). Каля 600 такіх філіялаў ёсць у Еўропе, шмат іх у Японіі, Аўстраліі, іншых краінах (у асноўным там, дзе раскватараваны амерыканскія войскі, кампактна жывуць амерыканцы).

Працяг.
Пачатак у №№ 22—27.

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

Пімен ПАНЧАНКА

### ПАРА ІЗНОЎ НА БОЙ!

Хапіла б мне і той, адной вайны!
Я ганаруся подзвігам салдацкім.
Ды забываюцца адважныя сыны,
Што спяць аж з той вайны
Ў магілах брацкіх.

Сябры мае, пара ізноў на бой!
Вы чуеце: хвалюецца народ наш.
Наўкол і гвалт, і плач,
І разарэнне, і разбой,
І наш народ —
Жабрачы і галодны.

А мільянеры! Ёсць!
А махляры! Навалам!
Прыватызацыя!

І ўсё, дзе ты рабіў і жыў,
Падаткам фантастычным
Абклала і скавала
Чыноўніцкая дрэнь...
Далей — забойствы, грабяжы.

І тое — пакута,
І гэта — пякельная мука!
Хто гэта хлусіў нам
Пра веліч баёў, перамог!
Бабуля галодная
З галодным унукам
Праз акно з дзевятага...
Ніхто іх, ніхто не ўберог.

На бой! —
Супроць нягоднікаў
І хабарнікаў подлых,
Нахабных раскрадальнікаў
Багацця і красы.
Вось калі трэба зноў
Усенародны подзвіг,
Як і ў саракавыя
Грозныя часы.

Сябры мае,
А рынку я не вораг,
Бо ведаю:
Патрэбна нам
Не красці, а рабіць,
Каб раўнадушша ўсіх
Прыбітых, бедных, хворых
З жыцця зноў знікла ў нас,
А час прыйшоў любіць.

### ЖЫТНЁВЫ ЗВОН

Калі за лета не ўбачу жыта —
Зраблюся хворым.
А за плячыма ўсё пераджытае
Стаіць з дакорам.

І тыя сцежкі, і тыя межы
Даўно ўзараныя;
І даль нябёсаў, як і належа,
У сінь прыбраная.

Дубоў вялікасць,
Бярозаў светласць
Ў зяленым дыме.
І свет адметны,
І час прыкметны:
Мы — маладыя.

А што засела у сэрцы кволым
З часоў дзяцінства!
А тая песня — і матчын голас
У полі чыстым.

За ціхай вёскай — даль палявая,
Чакаем родных.
А спеў жытнёвы ўжо наплывае
Такі журботны.

Такі любімы, як вочы маці,
Як сонца ў росах.
Яго за век ты не растраціш,
Той звон калоссяў.

З табой ён будзе ў душы сялянскай,
Дзе бы ты ні ехаў,
Той звон і ў хвалі акіянскай
Ледзь чутным рэхам...

Туга сагнула,
Жыццё змарнуеш —
Лепш не кажы так.
Прыслухайся!
І ты пачуеш
Той голас жыта.

Як голас маці, такі пяшчотны,
Да смерці родны.
На радасць шчодры,
На шчасце шчодры,
Ён — несмяротны.

**З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ**

## РЭПРЭСІРАВАНЫ "ПАН ТАДЭВУШ" -- КОЛЬКІ АСТАЛОСЯ ЭКЗЕМПЛЯРАЎ?


PAN TADÉUSZ
DWANÁTCAĆ SZLACHECKICH BYLIC

У ЦІКАВАЙ кніжцы польскай даследчыцы Малгажаты Штольцман "Ніколі ад цябе, горад..." (1987) пра культуру Вільні ў перыяд паміж паўстаннямі 1831 і 1863 гадоў пара старонак адведзена і нашаму класіку Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу. І не дзіўна: Вільня заўжды была асяродкам беларускай культуры, вельмі рухавы Навум Прыгаворка часта наязджаў у горад Гедыміна, выдаваў там свае творы, сустракаўся з сябрамі. У 1859 годзе тут павінен быў выйсці яго пераклад міцкевічаўскага "Пана Тадэвуша", кніга была ўжо набрана і зброшурована, але ў апошні момант цэнзура забараніла яе, і ўвесь тыраж пайшоў пад нож. І ўсё ж некалькі экзэмпляраў удалося вынесці і выратаваць. Але колькі менавіта? І колькі з іх дайшло да нашага часу? Штольцман у сваёй кнізе сцвярджае: "Адзіны ацалелы паасобнік знішчанага выдання мае цяпер Ягелонская бібліятэка ў Кракаве..." Такая ж думка пракідаецца часам і ў нашых даследчыкаў.

Сапраўды, беларускі "Пан Тадэвуш" у Кракаве ёсць. Дарэчы, не лепшы экзэмпляр — без тытульнага ліста. У свой час звесткі аб ім падаў нястомны працаўнік польскай кнігі, славуты бібліёграф К. Эстрайхер, які якраз быў дырэктарам Ягелонскай бібліятэкі. У 1893 годзе гэты паасобнік (дарэчы, у адным канвалюце з "Люцынкай" Дуніна-Марцінкевіча) зрабіў падарожжа з Кракава ў Пецярбург. Сталася гэта па просьбе Б. Эпімах-Шыпілы, які надзвычай акуратна скапіраваў (сваёй рукой перапісаў літара ў літару) рэдкае выданне і з падзякай вярнуў арыгінал у Кракаў.

Паводле гэтай копіі пераклад Дуніна-Марцінкевіча быў перавыдадзены ў 1907—1908 гадах выдавецтвам "Загляне сонца і ў наша аконца", адным з кіраўнікоў якога быў Эпімах-Шыпіла. У характэрнай кароценькай прадмове выдаўцы пісалі:

"Вось пускаем у свет шырокі дзве першыя былiцы "Пана Тадэвуша", пераложаныя на нашу мову. Цяжкая выпала доля гэтай кнізе. Убачыла яна свет божы ў 1859 гаду. На грошы, што шмат людзёў злажылі, а паміж іх былі і мужычкі, пачалі яе друкаваць у Вільні з дазвалення тагдышняга цэнзара Кукальніка. Трэба ж, што акуратна, як толькі скончылі друкаваць дзве першыя былiцы, на месца Кукальніка назначылі новага — некага Мухіна. Той вельмі строгі ўдаўся і зразу прысудзіў "Пана Тадэвуша" ў свет не пусціць. Так і не паспелі гэтыя былiцы ўзірнуцца на свет той ясны: іх арыштавалі і спалілі. Асталося цэлымі толькі дзве-тры кніжкі.

З аднае, што хаваецца ў кніжніцы Кракаўскага універсітэту, мы і перадрукавалі гэтае выданне.

Няхай жа ідзе гэта кніга прамеж людзёў, няхай пакажа, што і ў нашай мове можна выгаварыць вялікія думкі, даці прыгожыя і слаўныя абразы".

Можна ўдакладніць акалічнасці забароны "Пана Тадэвуша" 1859 года (галоўнае тут усё ж, мабыць, не персанальныя якасці цэнзараў, а зігзагі імперскай цэнзурнай палітыкі), але перавыданне 1907—1908 гадоў замацавала славу менавіта кракаўскага паасобніка.

Між тым існаваў пецярбургскі экзэмпляр першавыдання беларускага "Пана Тадэвуша" — у знакамітай публічнай бібліятэцы, дзе працавалі ў свой час над старымі рукапісамі браты Каліноўскія. У 1940 годзе яго апісаў малады даследчык І. Кузьмін у лімаўскай публікацыі пад характэрным загалоўкам "Выключна рэдкая кніга". (Дарэчы, тады ж Кузьмін надрукаваў і цікавы артыкул пра Ф. Багушэвіча; іншых яго прац я не ведаю: мабыць, загінуў у вайну).

Пасля вайны кракаўскі экзэмпляр зноў патрымаў у руках і сфатаграфаваў для ілюстрацыі беларускі даследчык у Польшчы Мацей Канапацкі, змясціўшы адпаведную інфармацыю ў беластоцкай "Ніве" (1962).

Кракаў, Пецярбург... Паважныя, але далёкія асяродкі. А што ж Вільня, дзе гэтае выданне рыхтавалася? Хіба кніжкі няма на радзіме? Як аказалася, беларускі "Пан Тадэвуш" 1859 года ёсць і ў Вільнюсе, у Аддзеле рэдкай кнігі Цэнтральнай бібліятэкі АН Літвы. Мяркуючы па штампе, у 30-х гадах гэты паасобнік знаходзіўся ў бібліятэцы Беларускага навуковага таварыства ў Вільні і, відаць, трапіў у акадэмічную бібліятэку пасля вайны пры расфарміраванні Беларускага музея. Паводле вільнюскага экзэмпляра ахарактарызаваў гэтае выданне І. Крамко ў "Гісторыі беларускай літаратурнай мовы" (1968), праўда, не назваўшы яго адрас. Гэтым жа паасобнікам карыстаўся Я. Янушкевіч пры падрыхтоўцы "Твораў" Дуніна-Марцінкевіча 1984 года, адпаведныя звесткі прыведзены ў артыкуле даследчыка "Прыбраны ў мужыцкую сярмягу" ("Маладосць", 1984, N 12).

Гісторыю выратаваных ад знішчэння экзэмпляраў беларускага "Пана Тадэвуша" я паспрабаваў раскрыць у кнізе "Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча" (1988). Я налічыў тады тры ацалелыя паасобнікі.

І раптам высветлілася, што гэтыя звесткі няпоўныя.

Неяк праглядаў бібліяграфічную картатэку Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, створаную пад кіраўніцтвам А. Мальдзіса для капітальнага біябібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў, і нечакана натрапіў на звесткі пра яшчэ адзін экзэмпляр славутага перакладу. Звычайная, можна сказаць, несамавітая бібліяграфічная картка, запоўненая характэрным ломкім хуткім почыркам самога Адама Восіпавіча, засведчыла, што беларускі "Пан Тадэвуш" прытаіўся таксама ў Рэспубліканскай бібліятэцы Літвы. Паколькі заняты іншымі клопатамі, Мальдзіс неяк не надаў гэтай сенсацыі значэння (мабыць, такіх бібліяграфічных сенсацый падчас падрыхтоўкі слоўніка было шмат), я з яго блаславення ў першую ж камандзіроўку ў Вільнюс агледзеў гэтае выданне.

Дык вось, манументальны, урачысты будынак былой Рэспубліканскай бібліятэкі ў цэнтры горада якраз побач з парламентам, месцам нядаўніх палітычных бураў. Цяпер гэта Нацыянальная бібліятэка імя Марцінаса Мажвідаса, названая ў гонар выдаўца першай літоўскай кнігі, малодшага сучасніка Ф. Скарыны. Аддзел літуаністыкі збірае не толькі чыста літоўскія выданні, але і наогул усе старыя друкі, якія з'яўляліся на тэрыторыі Літвы.

У каталогу ёсць спецыяльная скрыня для беларускіх выданняў. Наш "Тадэвуш" значыцца там пад

B balt. 1
№ ―――――― .
859

Кніжка добра захавалася, калі не лічыць амаль адарванага пераплёту, але гэта для бібліяфілаў не праблема. Галоўнае — тэкст.

Па ўсім відаць, кніга карысталася папулярнасцю, не аставалася без чытачоў. На форзацы, пільна прыгледзеўшыся, можна разабраць напаўсцёрты, яшчэ дарэвалюцыйны надпіс алоўкам: "Какъ прочітаешь, то прошу обратно". Чатыры дзесяцігоддзі (1859—1899), здаецца, не пакінулі на кніжцы іншых бачных слядоў. Датаваная гісторыя кніжкі, як бачна, пачынаецца з дарчага надпісу чорным чарнілам на шмуцтытуле па-польску: "У бібліятэку Ковенскага /?/ рымска-каталіцкага семінарыума ў 1899 годзе ахвяруе кс. Паўлоўскі". Хто гэты святар, сучаснік Багушэвіча, мы пакуль не ведаем. Але кніжка заняла тады сваё месца ў кніжніцы Ковенскай (Жамойцкай) семінарыі.

На тытуле ліловая авальная пячатка бібліятэкі Самагіцкай семінарыі (Самагіція — лацінская назва Жамойці-Жмайці). Аб такой жа прыналежнасці сведчыць і друкаваная наклейка на адвароце пераплёту з тэкстам на латыні (вельмі шанаванай у асяроддзі каталіцкага духавенства):

E. Bibliotheka
Seminarii Samogitiensis
Armar (шафа) 29B
N 65

На адвароце тытульнага ліста вялікая прамавугольная пячатка больш позняга часу па-літоўску: "Інвентар метрапольнай духоўнай семінарыі (літаральна — семінарыі ксяндзоў), N 10904" і круглая — Рэспубліканскай бібліятэкі.

Такім чынам, у канцы мінулага стагоддзя кніга належала асвечанаму ксяндзу, які падарыў яе ў семінарскую бібліятэку. Кніжка захоўвалася ў бібліятэцы Каўнаскай каталіцкай семінарыі, потым разам з іншымі яе рарытэтамі трапіла ў Рэспубліканскую бібліятэку Літвы, якая да 1963 года знаходзілася ў Каўнасе.

Выходзіць, кніга мела сваіх шанавальнікаў і ў літоўскім асяроддзі. Гэта для нас не навіна. Нагадаем, што яшчэ ў 1861 годзе з перакладам Дуніна-Марцінкевіча пазнаёміўся літоўскі пісьменнік-асветнік Мікалоюс Акялайціс, напісаў прыхільную рэцэнзію, якая таксама не здолела прабіцца ў друк. Дарэчы, не выключана, што мы маем якраз справу з экзэмплярам Акялайціса. Хаця не — на тым паасобніку, бадай, што-небудзь накрэсліў бы, пакінуў бы свой прыязны аўтограф сам перакладчык, які досыць блізка ведаў Акялайціса.

...На развітанне яшчэ раз гартаю рэдкую кнігу — калі яшчэ прыйдзецца ўзяць яе ў рукі. Што прыцягвае асаблівую ўвагу? Несумненныя поспехі беларускага кнігадрукавання. Беларуская кніжка ўсё больш упэўнена патрабавала сабе месца пад сонцам. Нават тытульны ліст у яе аформлены па-беларуску. І "талкаванні" — дарэчы, надзвычай цікавыя — таксама беларускія. Як зазначыў яшчэ І. Крамко, гэта ці не першы такі выпадак у XIX стагоддзі. Праўда, невялікая прадмова і зусім маленькая — у некалькі сказаў — інструкцыя, як чытаць, — усё ж пакуль што па-польску.

Цікавая графічная сістэма: для "ў" ужывалася курсіўнае "у", расстаўлены націскі, не абойдзена нават імя аўтара — Адам (не Адам, як вымаўлялася па-польску) Міцкевіч. У канцы на чатырох старонках — спіс падпісчыкаў (сапраўды, ёсць і сяляне-"мужычкі"), які завяршаецца нечакана шматзначнымі словамі — абяцанкай: "Dalszy ciąg nastąpi" (працяг будзе).Вялікім аптымістам быў наш Навум Прыгаворка! Гэтага працягу Беларусі давялося чакаць паўстагоддзя — да другога выдання кнігі. Дзве першыя песні-былiцы нарэшце дайшлі да чытача. А пераклад астатніх песень так і прапаў.

Такім чынам, сёння вядомы ўжо чатыры (хочацца сказаць — ажно чатыры) паасобнікі рэпрэсіраванага ў 1859 годзе "Пана Тадэвуша".

І ўсё ж гэта на сённяшні дзень адна з самых рэдкіх беларускіх кніг. Нават многія выданні вялікага першадрукара Скарыны — праз усю неймаверную далечыню часу — дайшло болей.

Генадзь КІСЯЛЁЎ.

ВЫЙШЛА ДЗЯКУЮЧЫ СПОНСАРАМ

# ПА ДУШЭЎНАЙ ПАТРЭБЕ

Адраджэнскія працэсы ў жыцці Беларусі аказалі плённы ўплыў і на кнігавыдавецкую справу. Праўда, колькасць кніг, што выпускаюцца афіцыйнымі структурамі, часам зніжаецца. Сказваюцца выдаткі рынку, адсутнасць некаторых паліграфічных матэрыялаў, рэзкае падаражанне паперы. Разам з тым адкрылася шырокае поле дзейнасці для выдавецтваў недзяржаўных, а таксама для розных малых прадпрыемстваў, прадпрыемстваў з абмежаванай адказнасцю... Да гэтага актыўна падключыліся не толькі ў сталіцы, а і на перыферыі. Кнігі выходзяць у Полацку, Паставах, Слуцку... У важным працэсе ёсць і яшчэ адзін, не менш важны аспект: на выданне літаратуры ахвотна выдаткоўваюць сродкі прадпрыемствы, калгасы, розныя грамадскія арганізацыі, чаго раней не назіралася.

Кніга Міколы Дзелянкоўскага "Сяброўствы. Знаёмствы. Сустрэчы" і з'явілася падобным чынам. Аўтару, дарэчы, знаёмаму і чытачам газеты "Голас Радзімы", каб змог ажыццявіць сваю задуму, дапамаглі найперш яго землякі з горада Скідзеля — камбінаты хлебапрадуктаў і будматэрыялаў, цукровы завод, а таксама аб'яднанне "Гродназнерга", калгас "Новае жыццё" Нясвіжскага раёна, Гарадзейскі цукровы завод. За падрыхтоўку рукапісу да друку ўзялося РВА "Белізвесція", а надрукавалі кніжку ў Маладзечне, зялёнае святло ёй дала друкарня "Перамога".

За што ўсім ім хочацца сказаць: "Вялікі дзякуй!", бо кніжка М. Дзелянкоўскага з тых, якія патрэбны самаму шырокаму чытачу. Са старонак яе паўстаюць аблічча знакамітых пісьменнікаў і іх маладзейшых калег па пяру, аўтар дзеліцца ўражаннямі ад прачытаных кніг, расказвае пра сяброўства з многімі літаратарамі. А за ўсім гэтым — уваходжанне ў шырокі, заўсёды такі вабны і вечна загадкавы свет прыгожага пісьменства.

Мікола Дзелянкоўскі не проста падае тыя ці іншыя факты, няхай самі па сабе і значныя, а піша свабодна, раскавана. Таму матэрыялы, змешчаныя ў зборніку, у пераважнай большасці сваёй па жанру належаць да эсэ. У іх і асабістае стаўленне аўтара да таго ці іншага пісьменніка, і жаданне глыбей зразумець адметнасць яго творчасці. І ўсё ж на першым плане бачыцца мастак слова як чалавек, а ўжо праз чыста чалавечыя якасці раскрываецца і яго творчая індывідуальнасць. З асобных штрыхоў, як правіла, вельмі выразных, паўстае тым самым асоба, а індывідуальныя рысы выкрышталізоўваюцца з тых самых багатых назіранняў, якіх шмат назапасілася падчас неаднаразовых сустрэч. У пераважнай большасці сваёй, безумоўна, "неафіцыйных", што не скоўвае ўзаемаадносіны, вядзе да шчырасці, адкрытасці, даверу.

Нездарма М. Дзелянкоўскі адкрыў кнігу эсэ "Наш Васілёк", хоць, зразумела, мог на першае месца паставіць і згадкі пра Васіля Быкава "На пачатку славы", што ўвайшлі ў раздзел "Водбліскі імгненняў". Мог, але пазбавіўся падобнай спакусы. Канечне, зробленае Васілём Уладзіміравічам у многа разоў пераважае тое, што пакінуў пасля сябе Міхась Васілёк. Ды пра В. Быкава пісалі многія, навошта ў такім разе паўтарацца. Дастаткова падзяліцца асабістымі ўражаннямі і на гэтым паставіць кропку (што М. Дзелянкоўскі і робіць у раздзеле "Водбліскі імгненняў"). Іншая справа М. Васілёк. Калі яшчэ пры жыцці паэт, не сказаць, каб быў увагай абдзелены, прынамсі ў першыя пасляваенныя гады, дык цяпер пра яго многія забыліся. А гэта ж сапраўдны самародак!

Ідучы менавіта ад тых назіранняў, якіх іншыя не маюць, аўтар паказвае М. Васілька і як чалавека з уласнай біяграфіі, бо ў маленстве, а пазней у юнацтве шмат разоў сустракаўся з ім, і як добрага знаёмца ўсёй сям'і Дзелянкоўскіх. Дзед М. Дзелянкоўскага зачытваўся часопісам "Маланка", у якім той друкаваўся, ды і па ім (таксама і па творах М. Васілька) вучыў пяцігадовага ўнука чытаць. А бацька...

"Наш Васілёк" — для яго значыла не толькі паэт, але і сябар, таварыш па змаганні. Яны разам вялі падпольную работу ў Скідзелі, які тады знаходзіўся пад уладай Польшчы. Помніцца таксама, як бацька, вырваўшыся восенню сорак першага з нямецкага палону, пытаў у маці:

— А дзе Васілёк? Не вярнуўся?

— Не, не чуваць.

Бацька ўздыхнуў".

Аднак, дзелячыся гэтым сваім, асабістым, М. Дзелянкоўскі не збіраецца ў чымсьці ўзвышаць М. Васілька. Зусім не, ён паказвае яго такім, якім быў. Сумленным, даверлівым, у нечым, бадай, і не прыстасаваным для штодзённага творчага жыцця. Ці не гэтым можна растлумачыць той факт, што М. Васілёк, такі папулярны ва ўмовах даваеннай заходнебеларускай рэчаіснасці, апошнім часам адчуваў сябе як бы адасобленым. Народнасць паэта працівілася ўсяму афіцыйнаму, а ў пэўнай ступені і дагматычнаму. Пясняр вёскі, працоўнага люду, ён, па сутнасці, не ўжываўся ў новых для яго абставінах.

Пра гэта, праўда, прама М. Дзелянкоўскі не гаворыць, але гэта вынікае з самога ходу ягоных разважанняў над лёсам М. Васілька. Тут жа і ўдалася спроба раскрыць сам час, выразнікам якога і быў народны паэт.

Шмат свайго, асабістага і ў нарысе "Сказаць людзям праўду". Воблік Янкі Брыля ў ім таксама вымалёўваецца з асобных сустрэч, кантактаў. Часам падаюцца яны ў нечым як бы выпадковыя, ды пільнае журналісцкае вока не прапускае, здавалася б, саміх дробязяў. Як высвятляецца, прычына гэтага простая: асабістая прыязнасць да Я. Брыля. Гэта гучыць і як прызнанне: "Я люблю Янку Брылястагісьменніка. Мне падабаецца манера яго пісьма, сакавітая народная мова. Я падзяляю яго думкі, яго погляды на жыццё... Я паважаю Івана Антонавіча як чалавека. Ён — чалавек высокай культуры, шырокай адукаванасці. Чулы, тактоўны".

З назіранняў, сустрэч, асабістых кантактаў з'явіліся і штрыхі да партрэтаў (нават у большай ступені жыццёвых, чым творчых) Паўлюка Пранузы ("На ветры жыццёвым"), Міколы Ткачова ("Душэўны чалавек"), Анатоля Астрэйкі ("Як і ў жыцці"). А гэтыя тры нарысы, хоць у кнізе і не выпучаны ў асобны раздзел, можна сказаць, стаяць у ёй крыху асабняком. Пра сяброў-таварышаў згадвае М. Дзелянкоўскі, пра тых, з кім вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце і з кім па сённяшні дзень часта сустракаецца.

Усе яны цяпер знакамітыя празаікі: Іван Пташнікаў ("Пра зямлю родную"), Вячаслаў Адамчык ("Не пакінуць шэрую кнігу"), Іван Чыгрынаў ("І заплакала перапёлка"). А як уваходзілі ў літаратуру, як з гадоў студэнцтва жыла любоў у кожнага з трох да матчынага слова, як далучаліся да паўсядзённага жыцця, імкнучыся спасцігнуць яго ва ўсёй паўнаце і складанасці... Пра ўсё гэта можна прачытаць у М. Дзелянкоўскага, а тым самым даведацца ў нечым і перадгісторыю твораў, якія сёння на слыху ў тысяч чытачоў.

Пра ўжо згаданыя "Водбліскі імгненняў", у якіх знайшлося месца і В. Быкаву, пра тое, як узніклі гэтыя эцюды, замалёўкі, аўтар расказвае ў невялікім уступе: "З многімі пісьменнікамі мне выпадала сустракацца не шмат, а то ўсяго аднойчы. Але сустрэчы запалі ў душу, засталіся ў памяці. І гэтыя водбліскі ўражлівых імгненняў не забываюцца праз гады, праз іх бачацца і самі пісьменнікі, і іх творы".

Ды і як жа можна забыцца, калі былі магчымасці сустракацца не толькі з В. Быкавым, а і з Данутай Бічэль-Загнетавай ("Запалянка"), Віктарам Карамазавым ("Улюбёны ў пушчу"), Аляксеем Карпюком ("На скрыжаванні"), Адамам Мальдзісам ("У вечным пошуку") і іншымі.

Пра ўсе матэрыялы кнігі, бадай, сказаць цяжка, ды і наўрад ці ёсць патрэба ў тым. Усё ж лепей чытаць яе самому. Аднак нельга не звярнуць увагу і на такую акалічнасць. М. Дзелянкоўскі (што было ўжо і бачна) не выбірае герояў для сваіх эсэ, нарысаў, эцюдаў. Не выбірае, а піша па душэўнай патрэбе, калі той ці іншы пісьменнік нечым асабліва блізкі яму. Таму і не прамінуў выпадку сказаць ухвальнае слова пра Алеся Дзятлава ("Не шукаючы броду"), Міколу Маляўку ("Яго лотаць"), Віктара Гардзея ("Шчырая лірыка")... Усё гэта творцы, без якіх цяжка ўявіць беларускую літаратуру. На жаль, крытыка не заўсёды заўважае іх належным чынам, па інерцыі згадваючы толькі адных і тых жа аўтараў.

"Сяброўствы. Знаёмствы. Сустрэчы" М. Дзелянкоўскага для чытання ўважлівага. Для такога, калі тое, пра што гаворыцца, не нахапкам бярэш, а ўдумліва ставішся да яго.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**



**Музей беларускай кнігі пачаў сёлета дзейнічаць пры цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа ў Слоніме. Мэта яго стварэння — прапаганда беларускай кнігі, нацыянальнай культуры і прыцягненне ўвагі чытачоў да творчасці мясцовых пісьменнікаў.**

**Бадай, гэта адзіны такі музей у вобласці, а мабыць і ў рэспубліцы, што існуе пры бібліятэцы. Ён мае два аддзелы. У першым расказваецца пра вытокі беларускай кнігі, пра айчынных першаасветнікаў. У другім наведвальнікі могуць азнаёміцца з творчым шляхам пісьменнікаў Слонімшчыны. Тут прадстаўлены К. Лейка, Г. Леўчык, С. Дарожны, А. Іверс, С. Чыгрын і іншыя.**

**НА ЗДЫМКУ: у Музеі беларускай кнігі.**

**Тэкст і фота В. ВАЛАДАШЧУКА.**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ





**Выстава "Жыве Беларусь", прысвечаная Першаму з'езду беларусаў свету, адкрыта ў Палацы мастацтва ў Мінску. Свае работы паказвалі беларускія мастакі з усяго свету — з Аўстраліі, ЗША, Прыбалтыкі, Расіі. Большасці з іх характэрна, як мне здаецца, жаданне дакрануцца ва ўспамінах і матэрыялізаваць рухам пэндзля тугу па родных мясцінах. Можа таму на карцінах беларусаў з-за мяжы шмат умоўнага — нейкіх знакаў беларускага. Часам гэта кветка, як у Галіны Русак (ЗША) на карціне "Макі". Ці беларускі арнамент, як на працах Юліі Андрусышынай з ЗША. Кожная зробленая ёю лялька, падушачка выканаы на беларускі манер і аздоблены беларускім узорам.**

**Цікавыя работы А. Аблажэй з Вільні "Срабрысты танец", "Блакітны танец". Яны дзівосна лёгкія, празрыстыя, дзякуючы жанчыне, якая выконвае танец колераў на іх.**

**У "Кампазіцыі" Ніны Анісімавай з Аўстраліі — спалучэнне адценняў сіняга колеру ў розных па насычанасці лініях.**

**На выставе шмат пейзажаў, а сярод іх нямала такіх, што не забываюцца. На карціне "Марскі матыў" Леўчанка — сосны на беразе мора. Гэта не проста прыгожа. Краявід пакарае насычанасцю колераў і гармоніяй.**

**У. Масленікаў прымушае здрыгануцца ад холаду і ветру сваёй карцінай "Навальніца". У прыродзе пануе такі неспакой, такі жах перад невядомай сілай, што робіцца страшна.**

**В. Шкаруба "Чаканне". На ўскрайку вёскі — адзінокая хатка. Яна пранізвае сваёй адзінотай і прымушае задумацца над касмічным чаканнем. Ім пранікнуты свет, дзе заўжды бацькі чакаюць дзяцей, а жанчыны — каханых. І хатка гэта — сімвал чакання.**

**Г. Вашчанка прадстаўляе на выставе тры працы — "Барысаў камень", "Сведкі", "Капішча". Як заўсёды, яго работы — гэта вытрыманасць стылю і глыбіня думак і пачуццяў.**

**С. Давідовіч у сваіх карцінах "Анёл, які іграе", "Анёл-ахоўнік" падкупляе пяшчотай і дабрынёй. Тонкія рысы анёла, якія мы бачым нібы праз шызы дымок, не абяцаюць, але і не забіраюць надзеі, што грае анёл пра любоў і шчасце. Ціхае і пяшчотнае, яно абавязкова прыйдзе пад музыку анёла. Нездарма ж ён так пільна ахоўвае нас.**

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: ВАРАЦА Л. і ВАРАЦА В. "Жыгмант Другі Аўгуст і Барбара Радзівіл"; БАТВІНЁНАК А. "Беларускія майстры XVII стагоддзя"; ДУДАРАНКА Л. "Баль драпежнікаў".**



## УРАЧЫСТАСЦІ Ў НАВАГРУДКУ




Афіцыйныя дні работы Першага з'езда беларусаў свету 8-10 ліпеня, але падзеі, у якіх прымалі ўдзел дэлегаты і госці форуму, землякі далёкага і блізкага замежжа, пачаліся яшчэ за тыдзень. Найбольш значныя з іх — святкаванне 770-годдзя старыжытнага Нясвіжа; у Купальскую ноч ярка палалі свяшчэнныя вогнішчы на Стаўбцоўшчыне, на беразе сівога Нёмана і ў вёсцы Баркалабава на Магілёўшчыне, дзе свята адбылося, нягледзячы на дажджлівае надвор'е. "На тое яно і Купалле", — адказалі ў Баркалабаве мясцовыя кабеты на пытанне, ці не перашкода святу дождж.

А вось у Навагрудку, дзе прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя 740-й гадавіне каранацыі князя Міндоўга, надвор'е ўсё ж свята трохі сапсавала. З-за праліўнога дажджу не адбылося тэатралізаванае прадстаўленне на гарадской плошчы, затое ўвечары была перапоўнена зала Дома культуры, на сцэне якога выступалі лепшыя беларускія калектывы са сталіцы і мясцовыя.

Кранальнымі і часам нечаканымі былі ў той дзень сустрэчы землякоў са сваякамі, якія сярод гасцей пазнавалі блізкіх і са слязьмі кідаліся адзін да аднаго ў абдымкі, як гэта адбылося з нашым суайчыннікам з Францыі Міхасём Навумовічам.

У той дзень на гары Міндоўга быў адкрыты мемарыяльны камень, які назаўсёды захавае памяць пра знамянальную падзею.

**НА ЗДЫМКАХ**, зробленых Віктарам **ТАЛОЧКАМ**, адлюстраваны ўрачыстасці ў Навагрудку.





## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА

**13 ліпеня, аўторак**

РОДНЫ КРАЙ '93

### ЗА ГІСТАРЫЧНЫМІ ПАДЗЕЯМІ

Пра Крэўскі замак напісана нямала. І ўсё ж кожнае знаёмства з мураванай спарудаю прыносіць новыя звесткі пра нашу мінуўшчыну. У 1382 годзе ў яго мурах здарыліся трагічныя падзеі. Змагаючыся за велікакняжацкі трон, здрадзіў сваім прысягам на міралюбства вялікі князь Ягайла і схапіў "князя вялікага Кейстута, дзядзьку свайго, скаваўшы, да Крэва паслаў, пасадзіў у твержу... І там у Крэве князя вялікага Кейстута задушылі пятае ночы князя Ягалава каморнікі...". Дэталі той трагедыі можна раскрыць, супаставіўшы звесткі летапісаў з матэрыяламі археалагічных даследаванняў. Вязніца 82-гадовага вялікага князя знаходзілася на першым паверсе Княжацкай вежы, куды можна было трапіць толькі праз вузкі тунель, які праходзіў у тоўшчы сцен з другога паверха. Зрэшты, як паказалі археалагічныя раскопкі, у сярэдзіну збудавання можна было трапіць толькі з баявой галерэі, якая размяшчалася на ўзроўні трэцяга паверха вежы. Калі ў сценах другога паверха мелася ўсяго некалькі вузенькіх байніц, то ўжо на трэцім і чацвёртым паверхах былі зроблены шырокія вокны са спічастымі завяршэннямі, адкосы якіх дойліды шчодра аздобілі фрэскавым роспісам. Яшчэ ў 1928 годзе ў "Нарысах з гісторыі беларускага мастацтва" Мікола Шчакаціхін, звярнуўшы ўвагу на гэту асаблівасць Княжацкай вежы, выказаў меркаванне пра размяшчэнне ў ёй жылых княжацкіх пакояў.

Думка мастацтвазнаўца пацвярджаецца не толькі звесткамі летапісаў, але і знойдзенымі пры раскопках тысячамі кавалкаў тынкоўкі з фрагментамі роспісу. Старажытны хранікёр запісаў: "Па смерці князя вялікага Кейстута паслаў князя вялікага Вітаўта князь вялікі Ягайла ў зняволенне да Крэва і з жонкаю загадаў строга сцерагчы... Князь вялікі Вітаўт сядзеў у Крэве пад вартаю ў пакоі ("комнате"), а жанкам двум дазволена было хадзіці да пакоя, і княгіню з ім пасадзілі, а паклаўшы іх, вон выходзяць..." Княгіня вялікая Вітаўтава прапанавала мужу: "Як служанкі зойдуць рыхтаваць нас да сну, пераапраніся ў вопраткуаднае і выйдзі з другою, а тая няхай застанецца са мною". Вітаўт скарыстаў прапанову жонкі і "спусціўся з мура, і ўцёк да Нямеччыны... да Мар'іна гарадка".

Шчаслівую развязку мела гэта трагічная гісторыя. Праз 28 гадоў вялікі князь Вітаўт павёў на бой пад Дуброўнам (Грунвальдам) харугвы беларусаў, ліцвінаў, палякаў, летувісаў, чэхаў, татараў, якія дашчэнту разбілі наймацнейшае ў Еўропе крыжацкае войска, паклаўшы канец агрэсіі ордэнскіх вояў на ўсходнія землі.

Разам з тым старонкі палітычнай гісторыі раскрываюць і нямала невядомага з мінуўшчыны беларускага дойлідства. Характар пабудовы Княжацкай вежы дазваляе гаварыць пра яе як пра адну з першых на Беларусі вежаў-данжон — жылая вежа з функцыямі абароны. Такія будыніны здаўна ўзводзіліся ў краінах Заходняй Еўропы і ў выпадку небяспекі станавіліся непрыступнымі ўмацаваннямі.

Ігар **ЧАРНЯЎСКІ**.

## БАРКАЛАБАЎСКАЕ КУПАЛЛЕ

Старадаўняе народнае свята Івана Купалы адроджана ў Баркарлабаве — вельмі старажытным паселішчы нашай рэспублікі, шырока вядомым дзякуючы Баркалабаўскаму летапісу.

У ноч з 6 на 7 ліпеня свята праходзіла на зялёным беразе Дняпра. Выстава, арганізаваная работнікамі раённага гісторыка-краязнаўчага музея, нагадала пра далёкую мінуўшчыну. Менавіта тут пры раскопках знойдзены старажытная кераміка, вырабы з бронзы, жалеза. У бронзавую эпоху на гэтым месцы была стаянка чалавека.

Другая выстава "Палотны Баркалабава" прадэманстравала высокі ўзровень мясцовых майстрых. Цікава, што палавіну экспанатаў прадставілі баркалабаўскія ткачыхі, а другую частку збіралі з усяго раёна.

Быў на святе і "Купальскі кірмаш". Але мясцоваму гандлю пры цяперашнім дэфіцыце не ўдалося ўзнавіць яго ранейшы каларыт. Затым адбылося тэатралізаванае прадстаўленне, на якое з усёй Магілёўшчыны прыехала больш дваццаці фальклорных калектываў, сабралася моладзь з усяго раёна. Былі і карагоды ля вогнішча, і баркалабаўскія тэатральныя гульні, і ўшанаванні Івана ды Мар'і, і пошукі кветкі папараці, і, нарэшце, варажба ля ракі. Па старадаўняму звычаю віталі ўдзельнікі свята ўзыход сонца.

На баркалабаўскім Купаллі пабывалі дэлегаты Першага з'езда беларусаў свету — у асноўным выхадцы з усходніх абласцей рэспублікі. У Быхаўскай царкве яны пакланіліся баркалабаўскай іконе Божай маці, прынялі ўдзел у царкоўных абрадах ля падмурка былога Баркалабаўскага манастыра.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак. 1009. Падпісана да друку 12. 07. 1993 г.